Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 6
ЧЭРВЕНЬ

МЕНСК—1927

А. Сянькевіч

# Літаратурныя аб'яднаньні ў БССР

Найноўшая беларуская літаратура да кастрычнікавага пэрыоду складаецца з такіх пісьменьнікаў як Я. Купала, Якуб Колас, Ц. Гартны і З. Бядуля (Самуіл Плаўнік).

Гэта літаратура так званага адраджэнчаскага пэрыоду, які наступіў у часы рэволюцыі 1905-06 г.г. У літаратуры гэтага часу пераважваюць галоўным чынам соцыяльныя і нацыянальныя мотывы. За часы самае цёмнае рэакцыі (1907-1912 г.г.) мы назіраем у творчасьці Я. Купалы і Я. Коласа покліч да барацьбы за нацыянальнае і культурнае адраджэньне, за захаваньне беларускай „душы" і мовы. Іх поэзія, абвеяная сумам, прасякнута ненавісьцю да нацыянальнага ўціску і паноў, яна заклікае на барацьбу за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Сыны бедных сялян—памянёныя песьняры ў сваіх соцыяльных імкненьнях ня йдуць далей імкненьняў таго-ж сялянства—гэта прыдбаць сабе кавалачак зямлі і ня мець над сабою апекі пана і царскага чыноўніка.

Старэйшае пакаленьне беларускіх пісьменьнікаў не адразу прыйшло да Кастрычніка. Тыя творы, што яны далі ў пэрыод 1917-1921 г.г. яшчэ прасякнуты адраджэнчаскімі мотывамі. Гэта мы бачым у драме Я. Купалы „Тутэйшыя", дзе польскі окупант становіцца на адну дошку з расійскім бальшавіком. Тое-ж самае гучыць і ў вершы Я. Коласа, прысьвечаным Рыскай умове.

Мотывы адраджэньня, якія зьяўляліся фактарамі рэволюцыйнымі да кастрычніка, робяцца сваёй праціўлежнасьцю пасьля таго, як пролетарыят, узяўшы ў свае рукі ўладу і вызваліўшы працоўныя масы ад соцыяльнага ўціску, прынёс гэтым масам і нацыянальнае вызваленьне.

Абвяшчэньне беларускай дзяржаўнасьці савецкай уладай, рашучае правядзеньне нацыянальнай політыкі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, мерапрыемствы па падняцьцю беларускае культуры і экономікі разьбіваюць халадок недавер'я сярод беларускіх пісьменьнікаў да політыкі саветаў і комуністычнай партыі. Першым на старонкі савецкай прэсы прыходзяць Я. Колас, З. Бядуля. Трохі пазьней зьяўляецца Я. Купала.

Найбольшую творчасьць выяўляе Я. Колас. У шэрагу апавяданьняў ён дае рэалістычныя малюнкі вайны, ваеннага камунізму, нэп'у. У апошнім сваім творы, „На прасторах" Я. Колас аканчальна парывае з ідэаламі свайго галоўнага гэроя з поэмы „Новая Зямля", ідэаламі аб сваім уласным кавалку зямлі, і на шырокіх палотнах малюе новае колектыўнае будаўніцтва—асушку вёскаю балота.

Нейк асобна стаіць у групе старых пісьменьнікаў поэта Цішка Гартны.

Рабочы-рамесьнік, ён яшчэ да рэволюцыі пяе ў сваіх вершах аб працы грабара і гарбара і малюе дробную кустарную майстэрню з яе потагоннай сыстэмай. Член КП(б)Б Гартны ў сваёй творчасьці стаіць на пралетарскіх пазіцыях.

Старыя пісьменьнікі да апошняга часу не ўваходзілі а ні ў якое літаратурнае аб'яднаньне і групаваліся галоўным чынам навакол літаратурнага журналу „Полымя". У даны момант яны ўвайшлі ва Ўсебеларускую Фэдэрацыю Савецкіх поэтаў і пісьменьнікаў.

### Літаратурнае аб'яднаньне „Маладняк"

Кастрычнікавая рэволюцыя, якая выклікала буйны рост культурнага будаўніцтва на Беларусі, высунула з пластоў рабочых і сялян новую фалангу поэтаў і пісьменьнікаў, як М. Чарот, Кузьма Чорны, М. Зарэцкі, А Александровіч, Крапіва, А. Дудар, У. Дубоўка і інш.

Гэтая маладая літаратурная раць у сваёй заяве, апублікаванай пад назваю „Заміж дэклярацыі" абвясьціла, што „Ўсебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў" організавалася дзеля таго, каб ажыцьцявіць у беларускай мастацкай літаратурнай творчасьці ідэі марксызму і ленінізму.

І сапраўды. Маладняк цалкам у першыя гады ня толькі пяяў ва ўнісон рэволюцыі, ён зьяўляўся фактычна трубадурам рэволюцыі. Праўда, маладыя поэты давалі галоўным чынам лірыку, але іх песьні, абвеяныя дымкай рэволюцыйнага романтызму, былі прасякнуты вераю ў рэволюцыю, поўны заклікаў да барацьбы, да творчасьці.

Такімі зьяўляюцца „Босыя на вогнішчы" М. Чарота, поэмы „Ленін", „Карчма", „Марына" таго-ж аўтара, песьні аб горадзе маладога поэты Александровіча, апавяданьні аб комсамоліі, аб жыцьці вёскі М. Зарэцкага, песьні А. Дудара і інш.

Маладняк рос і якасна і колькасна.

Ён ня толькі зрабіў працу па аб'яднаньню і згуртаваньню рэволюцыйных беларускіх пісьменьнікаў, але і па іх ідэолёгічнаму і мастацкаму выхаваньню.

Разгарнуўшы сваю дзейнасьць у відзе шырокай літаратурнай організацыі, якая цесна злучана з усёю грамадзкаю працаю партыі і комсамолу, Маладняк таксама адыграў значную ролю, дапамагаючы прыцягнуць шырокія колы маладой беларускай інтэлігенцыі да ўдзелу ў культурным будаўніцтве БССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Вырасшы з рэволюцыйнай барацьбы рабочых і сялян за сваё соцыяльна-політычнае і нацыянальнае вызваленьне, Маладняк упаяў у сябе не аднолькавыя па сваёй соцыяльнай прыродзе элемэнты, якія былі спаяны суб'ектыўнай рэволюцыйнасьцю і захоплены рэволюцыйнай романтыкай барацьбы. Такі неаднолькавы склад Маладняку замыкаў у сябе потэнцыяльныя магчымасьці дыфэрэнцыяцыі. Рост матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню мас, павялічэньне іх актыўнасьці, разьвіцьцё клясавага расслаеньня як у горадзе, так і ў вёсцы не маглі ня спрыяць дыфэрэнцыяцыі ў шэрагах Маладняка. Як вынік гэтага мы мелі выхад групы маладых пісьменьнікаў і заснаваньне ў чэрвені 1926 году новага літаратурнага аб'яднаньня „Узвышша".

Процэс дыфэрэнцыяцыі ўнутры Маладняка цягнуўся і далей. Ня так даўно адкалолася новая група маладых пісьменьнікаў, якая ў значнай меры адбівае ў сваёй творчасьці сялянскія, а таксама ўпадніцкія настроі.

Цяпер Маладняк налічвае ў сваіх шэрагах каля 60 членаў. Амаль па ўсіх акругах БССР маюцца маладнякоўскія філіі, якімі кіруе ЦБ Маладняка.

Апроч акруговых філій па раёнах і вёсках існуюць групы Маладняка, якія працуюць на правох студый пад непасрэдным ідэёвым кіраўніцтвам комсамолу. ЦБ Маладняка кіруе мастацкім выхаваньнем груп.

## Літаратурнае аб'яднаньне „Ўзвышша"

У сваёй дэкларацыі „Ўзвышша" з аднаго боку заяўляе што,— „мастацтва павінна быць работніцкім і сялянскім па матэрыялу, культурным па спосабах апрацоўкі матэрыялу і клясава-пролетарскім па сваёй ідэёвасьці і духу (мастацкае выражэньне ўсьведамленьня сябе, як клясы для сябе). Яго „форма"—нацыянальная," зьмест „пролетарскі". З другога боку ўзвышаўцы адхіляюць неабходнасьць служэньня мастацтва рэчаістасьці... „факт бурапеннай і самагоннай творчасьці; або „нравоучительной" і „протокольной" творчасьці, службовай казённай радасьці, выяўляе сабою ў літаратурным руху тэндэнцыю адмаўленства... Заміж мастацтва даецца: „літаратурныя прысмакі, забелку або прыстрахі з мэтай вырашэньня надзенных асабістых задач і задаваленьня сваіх асабовых (поэты ці пісьменьніка) інтарэсаў".

І дэклярацыя і організацыйныя формы „Ўзвышша" ў значнай меры зьяўляюцца сколкам з украінскай Ваплітэ (Вільна Акадэмія Пралетарскай Літературы).

Калі судзіць па першаму нумару журнала „Ўзвышша", дык нельга не згадзіцца з тым, што „Ўзвышша" імкнецца цьвёрда правадзіць асноўныя прынцыпы дэкларацыі ў сваёй творчасьці. Характэрным зьяўляецца тое, што ў творчасьці ўзвышаўцаў амаль абходзіцца сучаснасьць. Калі-ж яны і аддаюць нейкую дань савецкай рэчаістасьці, дык малююць яны яе ў жоўтых ды часта і ў цёмных тонах; на савецкую рэчаістасьць глядзяць яны якась збоку. Вершы, проза, якія трактуюць аб сучаснасьці прасякнуты пэсымізмам і ўпадніцтвам. Думкі поэтаў кожнай страфою рвуцца ў мінулае або будучыну. А як-жа з сучаснасьцю?

Гаворачы аб лістох клёну, поэт Я. Пушча пяе:

Жыцьцё іх—нядоля ліхая
Цярнёвы вянок Беларусі...
. . . . . . . . .
Плач струнны за сэрца хапае
Ліецца са струн Апалона.

Або ў другога поэты, С. Лужаніна, сучаснасьць—гэта восень:

„Над далінамі восень. Плачуць ліпы лістамі.
Плачуць ліпы лістамі... Плача поле і сад.
Гэта пойдзе і прыдзе ды йначай паўстане
Ды йначай паўстане былая краса".

У групе „Ўзвышша" аб'яднана найбольш талентная група пісьменьнікаў, якая дае з мастацкага боку найлепшую продукцыю. Ёсьць надзея, што іх суб'ектыўна шчырая заява працаваць над замацаваньнем справы пролетарскай дыктатуры пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будзе ажыцьцёўлена. Гэтаму ў значнай меры можа дапамагчы марксысцкая крытыка, і з другога боку палепшаньне матэрыяльных умоў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. Група „Узвышша" выдае журнал пад тою-ж назваю, а таксама кніжніцу „Ўзвышша".

### Яўрэйскае літаб'яднаньне „Юнгер Арбэйтэр"

Організацыйная структура групы наступная: членам літгрупы зьяўляецца пісьменьнік, які стаіць на пляцформе „Вапп'а". Вакол аб'яднаньня групуецца малады актыў (15 чалавек) які зьмяшчае сваё творы на літаратурнай старонцы „Юнгер Арбэйтэр". Існуюць літаратурныя групы і на мясцох—Віцебск, Полацк, Магілеў, Мозыр, Гомель, Ворша—якія падтрымліваюць з Менскай групай сталую сувязь.

У творчасьці перавышае галоўным чынам поэзія; прозы слабавата. Творы літгрупы зьмяшчаюцца ў журнале „Штэрн" і ў мясцовых яўрэйскіх газэтах. Групаю выдан літаратурны зборнік „Кэп" і зборнік піонэрскіх песень. Робяцца пераклады некаторых беларускіх пісьменьнікаў. Па соцыяльнаму складу з 13 чалавек групы 6—рабочыя, з іх пяць працуюць у станка, рэшта—служачыя. Тры члены групы працуюць у вобласьці крытыкі і даюць бібліографічны матэрыял для газэт Беларусі.

### Расійская група „Звенья"

Група налічвае 14 асоб. Маюцца філіі ў Віцебску і Бабруйску. У групу аб'яднаны пісьменьнікі самых розных напрамкаў—Нео-Леф, Вапп, Перевал. Група друкуецца на старонках газэты „Звезда" і іншых газэтах, што выходзяць на расійскай мове. Групаю выпушчана некалькі невялічкіх зборнічкаў. Пры рознакаляровым складзе групы цяжка гаварыць аб яе ідэолёгічным абліччы. Дасягненьні ў вобласьці мастацкае творчасьці слабыя ў падаўляючай большасьці групы.

У апошнія часы з групы выдзелілася сем пісьменьнікаў, галоўным чынам сялянскіх, якія організавалі філію Маскоўскага „Перевала" і ні з боку ідэолёгічнага, ні з боку формальнага група покуль што сябе яшчэ ня выявіла.

### Агульныя ўвагі

Вот наогул кароткая характарыстыка літаратурных груп на тэрыторыі Беларусі. У гэтых нататках я закрануў толькі ідэолёгічны бок творчасьці беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў. Недахоп месца і часу не пазваляе разгледзець творчасьць з боку мастацкага. У гэтай вобласьці мы маем вялікія дасягненьні, асабліва ў беларускай літаратуры. Шмат твораў як старых, так і маладых пісьменьнікаў перакладзена на нямецкую, ческую, італьянскую і іншыя чужаземныя мовы. Такія рэчы, як апавяданьні „Новая Зямля, поэма" „Сымон Музыка"—Я Коласа; „Сон на кургане", „Раскіданае гняздо"—Я. Купалы, „Босыя на вогнішчы", М. Чарота і творы Ц. Гартнага, К. Чорнага, У. Дубоўкі можна аднесьці да клясычных твораў як па форме, так і па зьместу. Ёсьць спробы і досыць удалыя ў галіне складанага апавяданьня, роману, драмы.

Адным з вялікіх недахопаў зьяўляецца амаль поўная адсутнасьць марксысцкіх крытыкаў. Ёсьць невялічкая група таварышоў, якая час ад часу ўдзяляе свой дасуг пытаньням крытыкі, але гэта робіцца таксабе, між іншым. У задачу дня ўваходзіць утварэньне хоць-бы невялікага кадру крытыкаў марксыстых. Гэтага патрабуе тое складанае становішча, якое мы перажываем і якое знаходзіць сваё выяўленьне ў мастацкай літаратуры. Выхаваньне літаратурнага маладняка, выпраўленьне хібаў немагчымы, калі кожная літгрупа і кожны пісьменьнік будуць аддадзены самым сабе. Утварэньне Ўсебеларускай фэдэрацыі пісьменьнікаў, якое адбылося, таксама будзе спрыяць як мастацкаму, так і ідэолёгічнаму афармленьню беларускіх пісьменьнікаў.

---

А. Сасноўскі

# Індывідуальная і масавая агітацыя

Мы жывём у эпоху, нязьменна прад'яўляючую да партыі значна, супроць мінулага, павышаючыяся і ўскладняючыяся запатрабаваньні.

Усёй сваёй працай павышаючы і ўскладняючы зьмест, запатрабаваньні і тэмп жыцьця працоўных, мы тым самым абавязваем і саміх сябе да павышэньня ступені нашага разьвіцьця, да ўскладненьня і ўдасканаленьня прыладаў і сродкаў нашага ўплыву на масы.

Найменшае адставаньне, найменшае таптаньне на месцы – згубна для нашага кіраўніцтва.

Пасувацца ўперад і вышэй—вось моцная лёгіка няўхільна ўсходзячага процэсу, кіруючым фактарам якога гісторыя выбрала нашу партыю.

І ў шэрагу сродкаў, якія партыі трэба зрабіць больш удасканаленай прыладай нашага ўплыву на масы і адначасна больш дасканальнай прыладай унутрыпартыйнага ўзросту,—найбольшае месца павінна быць адведзена агітацыйнай і прапагандысцкай працы індывідуалаў.

Выпячваньне індывідуальнай агітацыі і прапаганды тым больш настойліва дыктуецца нам, што колькасна-якасна вырасшая партыя вычэрпываюча скарыстаць усю знаходзячуюся ў ёй энэргію на аднэй масавай працы не змагла-бы,—папершае; і, падругое, не змагла-б так цесна і ўсебакова ўвязацца з масамі, як гэтага патрабуюць інтарэсы кіраўніцтва.

І як-бы добра не пастаўлена была масавая праца, яна ніколі ня зможа ўнесьці ў зьмест уплыву на тыя элемэнты інтымнасьці, пранікнутасьці, адпаведнасьці запатрабаваньням і ўзроўню разьвіцьця кожнага асобнага слухача, якія толькі даступны ў працы індывідуала.

Індывідуальная агітацыя дыктуецца нам і тымі абставінамі, што масавая праца часам зусім ня можа ўцягнуць у сфэру свайго ўплыву цэлы шэраг грамадзка-працоўных праслоек, альбо вычэрпываюча ўцягнуць іх, як напрыклад: дамашніх гаспадынь, дамашніх наймітак і працоўных, па роду сваіх заняткаў, адарваных ад сканцэнтравана-групавых колектываў, як шэраг профэсій саюзу Рабземлес, працаўнікоў Нарсувязі, батракі і г. д. і г. д.

І, урэшце, задачы ўнутры-партыйнага росту, якія вымагаюць трэніраваньня ўсіх сілаў партыі,—усё гэта разам узятае, стаўляе перад нашымі ячэйкамі задачы індывідуальнае агітацыі і прапаганды, як задач, якія папаўняюць задачы масавай працы, падрыхтоўваюць і замацоўваюць вынікі іх, як папаўняючыя спосабы ўнутры-партыйнага выхаваньня.

Такім спосабам, усебакова відавочна, што індывідуальная агітацыя патрэбна, што значэньне яе ўсебакова вялікае.

І аднак-жа, і цяпер яшчэ, пасьля даволі доўгага пэрыоду практыкаваньня індывідуальнае агітацыі, для шырокіх мас партыі застаецца шмат няяснасьці на гэтым важкім вучастку нашае працы.

Вельмі няяснае, перш за усё, пытаньне аб гранях, якія адмяжоўваюць агітацыю індывідуальную, ад агітацыі масавай.

Чаму індывідуальная агітацыя называецца індывідуальнай,—таму мо', што агітатарам зьяўляецца індывідуум, альбо таму што індывідуум зьяўляецца агітуемы? Вельмі відавочна, што ня факт агітацыі адзінаю асобаю адрозьнівае індывідуальную агітацыю ад масавай, бо на организаваным партыяй масавым сходзе агітацыю таксама можа вясьці адзін толькі індывідуум.

Знову-жа і другая прымета,—налічча толькі адзінага об'екту агітацыі—ня можа зьяўляцца неабходнаю і дастатковаю прыметаю індывідуальнае агітацыі, бо магчыма, што об'ектам індывідуальнае агітацыі будзе і не адзін, а двое-трое і г. д. альбо нават адна, ці некалькі сем'яў. Не адмовіцца-ж партыец у сваёй індывідуальнай агітацыі ад разьвіцьця і абароны бягучых лёзунгаў партыі ў гутарцы з беспартыйнымі сялянамі ў вёсцы альбо рабочымі на фабрыцы ці заводзе толькі таму, што слухачамі, удзельнікамі гутаркі будуць не адзінкі?

У чым-жа тады неабходныя і дастатковыя прыметы, якія-бы адрозьнівалі агітацыю індывідуальную ад агітацыі масавай. Масавая агітацыя абавязкова мае на мэце аднachасовае прысутнічаньне большай альбо меншай колькасьці індывідуумаў, чаго абавязкава агітацыя індывідуальная на мэце ня мае.

Масавая агітацыя, як правіла, дакладна прадугледжвае час, месца і тэму агітацыі, чаго зноў-жа, як правіла няма і быць ня можа ў агітацыі індывідуальнай.

І ўрэшце істотнае гэта тое, што на масавую агітацыю партыя звычайна вылучае спэцыяльных агітатараў, а к агітацыі індывідуальнай партыя абавязвае, пры ўсякім выпадку ўсіх комуністых: „Кожны комуністы павінен быць агітатарам за партыю і савецкую ўладу (з рэзолюцыі XIII Зьезду УКП(б).

І благі, вельмі благі, быў-бы наш партыйны склад, калі-б кожны з партыйных індывідуумаў у штодзённым жыцьці і сваёй працы не зьяўляўся-бы больш, альбо менш талентным, больш-менш актыўным.

І ў гэтым напрамку ня шкодзіла-бы нашую шэраговую масу добра азнаёміць з індывідуальнай працай бальшавікоў-падпольнікаў, якія ўмудраліся быць найактыўнейшымі індывідуаламі знаходзячыся нават за кратамі.

Комуністы-рабочы, комуністы-селянін, комуністы ў станка, у сахі, у канцэлярыі, у сям'і, у тым ці іншым крузе зносін—не комуністы, калі ён не зьяўляецца там штодзённым агітатарам, штодзённым праваднікам ідэй і задач партыі, змагаром за іх.

Такім чынам зразумела, што асноўнай розьніцай агітацыі індывідуальнае ад масавай зьяўляецца абавязальнасьць яе для ўсіх комуністых яе штодзённасьць, паўсюднасьць незалежна ад ліку об'ектаў агітацыі.

Ну а тэматычна, па зьместу, ці можа і ці павінна індывідуальная агітацыя розьніцца чым небудзь ад агітацыі масавае?

Ужо з тае ролі, якая папаўняе масавую агітацыю, якая падрыхтоўвае, замацоўвае і разьвівае вынікі яе,—ролі, якую мы вышэй ахарактарызавалі, відавочна, што агітацыя індывідуальная па свайму зьместу, у асноўным, павінна поўнасьцю супадаць з зьместам агітацыі масавае.

Усялякага роду няўвязка, неадпаведнасьць у гэтых адносінах— зьявілася-бы аслабленьнем уплыву нашае масавае агітацыі, распыленьнем нашых высілкаў і разам з тым і аслабленьнем эфэкту самае індывідуальнае агітацыі.

І адсюль відавочна, што нашыя ячэйкі павінны значную ўвагу ўдзяліць справе арганізаванага і сыстэматычнага кіраўніцтва індывідуальнай агітацыяй пад кутом погляду задач масавае нашае працы: ня можа і не павінна мець месца, неарганізаваная, несыстэматычная індывідуальная агітацыя, не ўзгаднёная па свайму зьместу з задачамі масавай працы бягучага моманту.

Само сабою разумеецца, што ўстаноўка, якая абавязвае кожнага камуністага вясьці індывідуальную агітацыю сыстэматычна-арганізаваную пад кіраўніцтвам ячэйкі, не аслабаняе яго як ад партыйна-палітычных тлумачэньняў беспартыйным пытаньня, тэматычна плянам не ахопленага, але тым ня менш цікавага для беспартыйных, таксама і ад агітацыйнага рэагаваньня ў выпадках, калі маюць месца, з партыйнага пункту погляду, зьявішчы адмоўныя.

Што-ж датычыцца мэтадаў індывідуальнае агітацыі, то яны, у выніку надзвычайнай стракатасьці варункаў і повадаў індывідуальнай агітацыі, цяжка паддаюцца рэглямантаваньню.

Агульная мэтодычная ўстаноўка: не агітуй за тое, у што ты сам ня верыш, іначай скомпрамітуеш сябе, партыю і тую справу за якую агітуеш.

Ня ўпушчай ніводнага агітацыйнага выпадку тлумачэньня, заўсёды зьяўляючыся ініцыятарам гутаркі на тэму сёньняшняга дню, заўсёды па магчымасьці, выходзячы з інтарэсу мясцовага, штодзённага.

Калі чаго-небудзь ня ведаеш, не разумееш па ўзьнікшаму пытаньню, зьвярніся ў ячэйку, к апоргу, к найбольш разьвітаму таварышу ў ячэйцы.

Выбірай сраду агітацыі, у соцыяльна-бытавых адносінах, блізкую, знаёмую табе, дзе ты па вопыту, карыстаешся дастатковай сілай пераканаьня.

Само сабою разумеецца, што гэта не азначае, што ўжо цяпер таварышам мала падрыхтаваным нельга прапанаваць прасьцейшых, зусім прыступных кожнаму пісьменнаму, мэтадаў чытаньня і выясьненьня па пытаньнях бягучага моманту і тлумачэньня па пытаньнях і даведваньня па момантах уразумлёных з прачытаных газэт, заслуханых у ячэйцы тлумачэньняў і г. д. і г. д.

Як-жа, аднак, цяпер конкрэтна абстаіць справа з індывідуальнай агітацыяй і яе ўвязкай з агітацыяй масавай.

Перш за ўсё, трэба канстатаваць, што да гэтай пары ячэйкі не ўразумлялі сабе значэньня, аб'ёму, задачаў і мэтадаў індывідуальнай агітацыі, не ўразумелі сабе, у якіх суадносінах індывідуальная агітацыя павінна стаяць да агітацыі масавай.

Да гэтага часу ячэйкі справу індывідуальнай агітацыі не зрабілі справай усіх яе сяброў і, у большасьці выпадкаў, прадаўжаюць практыкаваць сыстэму „прымацаваньня“, вылучэньня індывідуалаў, падчас вылучаючы такімі тых, для каго ня маюць магчымасьці знайсьці другой нагрузкі.

Вучот вопыту прымацаваньня індывідуалаў сьведчыць, што практыка прымацаваньня ў большасьці не апраўдвае сябе і пагэтаму трэба пакончыць з інстытутам індывідуалаў, якія, часам, прыводзяць

да канфузу,—тым больш трэба пакончыць, што індывідуальная агітацыя ня можа зьяўляцца монополіяй адзінак, а прадстаўляе абавязак кожнага партыйца.

Трэба скончыць з саматужніцтвам на гэтым важнейшым вучастку нашай працы, консолідаваўшы індывідуальныя высілкі праз прыцягненьне да індывідуальнай агітацыі ўсіх сяброў партыі, падпарадкаваўшы, у асноўным, зьмест гэтай агітацыі задачам агітацыі масавай.

Кожны партыец не прымацоўваецца, а сам выбірае сабе большменш сталую сраду сваёй індывідуальнай агітацыі, даводзячы да ведама ячэйкі аб выбранай срадзе.

Па кожнаму моманту індывідуальнай агітацыі, пагоджанай з задачамі масавай агітацыі, ячэйка павінна даваць узорныя, лёгічна-тэматычныя і мэтодычныя показы.

Вучот вопыту масавай агітацыі таксама павінен праходзіць у ўвязцы з вучотам вопыту агітацыі індывідуальнай, што не выключае, разумеецца, плянамерных спэцыяльных нарад ячэек па пытаньнях індывідуальнай агітацыі.

Толькі па выніках масавай агітацыі, увязанай з агітацыяй індывідуальнай, мы зможам меркаваць аб пасьпяховасьці ці не пасьпяховасьці апошняй.

І такая пастаноўка ўсёй нашай агітацыі, значна падняўшы ўзровень актыўнасьці ўсяго партыйнага колектыву, здыме выключную адказнасьць асобных адзінак за пасьпяховасьць працы, пераносячы яе на кожнага, бяз выключэньня, сябру колектыву.

А запраўды ў гэтым яшчэ доўга будзе зьмяшчацца адна з важнейшых задач нашага партыйнага дню.

---

З. Хацімскі

# Інструктарская праца

Неабходнасьць карэннага паляпшэньня партыйнага кіраўніцтва, усё ўзрастаючае значэньне жывога кіраўніцтва ва ўсёй сыстэме партыйнай працы чым далей, тым усё настойлівей высоўвае пытаньне аб удасканаленьні партыйнага інструктажа, аб адвозе яму месца адпавядаючага яго значэньню і задачам.

Дзеля гэтага ў апошні час адчуваецца неабходнасьць абгаварваньня і распрацоўкі шэрагу пытаньняў, зьвязаных з пастаноўкай інструктарскай працы і яе рацыяналізацыяй.

У гэтым артыкуле я хачу застанавіцца на некаторых з гэтых пытаньняў.

Перш за ўсё аб характары абсьледваньня. Якое месца павінны займаць абсьледваньні суцэльныя і паасобных пытаньняў?

Да самага апошняга часу у нас у вакругах абсолютна пераважвалі суцэльныя абсьледваньні, г. зн. абсьледваньні цэлых арганізацый. Абсьледваньні паасобных галін працы, ці зусім не практыкаваліся, ці праводзіліся, як рэдкае выключэньне. Гэта часткова тлумачыцца тым, што ў пляны прац партыйных камітэтаў рэдка ўключаюцца вывучэньні альбо праверка выконваньня асобных галін працы, найбольш важных для дадзенай арганізацыі, а часьцей усяго ўключаюцца даклады ніжэйстаячых парторганізацый.

Між тым, неабходнасьць глыбокага вывучэньня пастаноўкі асобных галін працы, выключная важнасьць правільнай пастаноўкі праверкі, выконваньня дырэктыў настойліва дыктуе зараз у сыстэме партработы і, значыцца, у плянах прац і ў інструктарскай працы, адвесьці больш значнае месца абсьледваньням паасобных пытаньняў.

Гэта ня значыць, што такога роду абсьледваньні павінны канчаткова выціснуць суцэльныя. І тыя і другія абсьледваньні павінны ў необходнай пропорцыі злучацца ў плянах парткомаў.

Напэўна, і пры правядзеньні суцэльных абсьледваньняў зусім ня трэба абавязкова абхопліваць усе бакі жыцьця і становішча арганізацыі. Такая задача будзе не пад сілу для самага вопытнага і здольнага інструктара і абавязкова выльлецца ў павярхоўны агляд. У кожным асобным выпадку пры складаньні пляну абсьледваньня і пры яго правядзеньні неабходна выходзіць з асаблівасьцяй данай арганізацыі і з тых пытаньняў, якія ў даны момант зьяўляюцца найбольш важнымі. На гэтых пытаньнях трэба, галоўным чынам, і сконцэнтраваць увагу і на аснове іх правяраць і другія галіны працы организацый.

Абсьледваньні асобных галін працы, натуральна павінны ўвязвацца з плянамі прац вышэйстаячых парторганаў і павінны намячацца для разьвіцьця і выконваньня гэтых плянаў. Але апрача такіх абсьледваньняў могуць і павінны намячацца да абсьледваньня пытаньні, характэрныя і найбольш важныя для данай арганізацыі, і непрадугледжаныя плянам вышэй стаячых парторганаў.

Як правіла перад кожным абсьледваньнем павінен складацца плян яго. Мэтазгодна, каб плян абсьледваньня зацьвярджаўся на оргнара-

дах. Зразумела, што пастаянных схэм для абсьледваньня, годных для ўсіх арганізацый і для ўсякага часу ня можа быць, таму, што кожнае абсьледваньне павінна стаўляць перад сабой асаблівыя заданьні.

Падрыхтоўка да інструктарскага ад'езду павінна пачацца задоўга да ад'езду. У гэту падрыхтоўку абавязковым элемэнтам павінна ўвайсьці азнаямленьне з асноўнымі матэрыяламі, характэрызуючымі гэту арганізацыю. Гэта дасьць магчымасьць пры складаньні пляну і пры выезьдзе на месца адразу асабліва зьвярнуць увагу на асноўныя, найбольш важныя для данай арганізацыі моманты. Мэтазгодна дзеля гэтага, каб інформацыя разам з інструктарам да ад'езду, складалі кароткі агляд важнейшых момантаў працы арганізацыі. Час-ад-часу неабходна на оргнарадзе стаўляць пытаньне аб падагуліваньні вопыту інструктарскай працы і аб яе сыстэме і мэтодах.

У некаторых акругах паўстае пытаньне аб увядзеньні ў практыку групавых выездаў інструктароў. Дзе-ні-дзе гэта ў тым ці іншым выглядзе пачынае праводзіцца. Вядома, як вопыт ці ў асаблівых выпадках, калі гэтага патрабуе характар абсьледваньня, такія групавыя выезды можна практыкаваць, як сыстэму, аднак, гэтага на наш погляд не патрэбна. Папершае, таму, што гэта вельмі заграмаджае абсьледваньне, няўхільна вядзе яго да разбуханьня і ўздаражае яго; падругое, яшчэ таму, што групавыя абсьледваньні не абыходзяцца бяз шумлівасьці, нават калі сам гэтага ня хочаш, выклікаюць шмат клопату, а часам і наганяюць лішні „страх" на абсьледуемых.

У зьвязку з гэтым стаіць пытаньне аб працягу інструктарскага выезду.

Вядома, пастаянныя тэрміны ўстанавіць нельга. Працяг павінен кожны раз устанаўлівацца ў залежнасьці ад характару і об'екту абсьледваньня. Аднак, трэба сказаць, што да гэтага часу ў працягу інструктарскіх выездаў пры аднолькавых об'ектах і аднолькавым характары абсьледваньня (магчыма пры абсьледваньні раённай парторганізацыі) на мясцох маецца вялікая няўвязка.

Дзеля таго, што найбольш пашыранымі ў акругах зьяўляюцца абсьледваньні вясковых раённых арганізацый, то застановімся конкрэтна на мэтазгодным працягу такога абсьледваньня.

Як правіла, у такіх выпадках неабходна добра азнаёміцца з працай 2-х сельячэек і сельсаветаў, з рознымі арганізацыямі знаходзячымися на іх тэрыторыі.

Для гэтага патрэбна орыентыровачна 16—20 дзён (па 8—10 дзён на сельсавет).

Для абсьледваньня працы Райкому і другіх раённых арганізацый і для складаньня вывадаў—прыблізна 10—12 дзён.

Для складаньня матэрыялаў у Акругком і пастаноўкі там дакладу, для высьвятленьня вынікаў абсьледваньня ў друку і для пастаноўкі дакладу аб выніках абсьледваньня і пастановак АК у абсьледванай арганізацыі—яшчэ 8—10 дзён. Усяго, такім чынам, для такога абсьледваньня патрэбна прыблізна 34—42 дні.

Вядома, тут у розных выпадках могуць быць адступленьні, але ў асноўным такія тэрміны трэба лічыць найбольш адпаведнымі.

На мясцох выклікае сумляваньне ў пытаньні, аб тым, калі трэба рабіць даклад у абсьледванай арганізацыі: да гэтага, ці пасьля пастаноўкі вывадаў інструктара ў вышэйстаячым парторгане. Да гэтага часу, як правіла такія даклады стаўляліся да іх пастаноўкі ў вышэйстаячым парторгане. Галоўным недахопам такога парадку зьяўляецца

тое, што вывады інструктара часам прымаюцца як дырэктывы абсьледванай організацыяй, ня гледзячы на тое, што яны не зацьверджаны парткомам.

Дзеля гэтага мэтазгодна распаўсюдзіць на мясцовыя організацыі парадак, устаноўлены ЦК УсеКП(б), для адказных інструктароў ЦК УсеКП(б) (гл. пастанову ЦК ад 28/III 27 г.), а іменна: даклады інструктароў стаўляць непасрэдна ў вышэй стаячым парткоме, а пасьля іх зацьверджаньня стаўляць даклады аб вышках абсьледваньня і пастановах парткомаў у абсьледваных організацыях (на райкоме, раённым актыве, агульна раённым сходзе). Гэта ня значыць, што інструктар павінен хаваць ад організацыі свае вывады. Наадварот, у процэсе абсьледваньня і ў канцы яго інструктар абавязкова павінен інформаваць адпаведны партком альбо бюро ячэйкі аб ходзе і выніках яго працы і аб яго вывадах.

Да гэтага часу вывады інструктароў на парткомах стаўляліся, звычайна, як садаклады к дакладам сакратароў абсьледваных організацый. Мы лічым мэтазгодным іншы раз практыкаваць самастойныя даклады інструктароў, вядома, у прысутнасьці прадстаўніка абсьледванае організацыі.

Пісьмовыя даклады інструктароў аб выніках абсьледваньня па нашай думцы не павінны ўключаць у сябе апісаньня ўсіх бакоў жыцьця і працы організацыі. Яны (пісьмовыя даклады) павінны быць па магчымасьці кароткімі, складацца з вывадаў аб выніках абсьледваньня, падмацованых апісаньнем асноўных фактаў. Толькі ў такім выпадку іх запраўды будуць чытаць, чым і каштоўнасьць іх павялічыцца. Што-ж тычыцца апісальнага матэрыялу, то яго заўсёды можна знайсьці ў інформацыі парткому (справаздачныя даклады, інформацыйныя пісьмы і г. д.) і яго пагэтаму нанава ня трэба складаць інструктару.

Чым павінны займацца інструктары ў прамежку паміж абсьледваньнямі? У гэтым пытаньні шмат рознастайнасьці і няправільнасьці (часам праўда вымушаных). Часьцей за ўсё ў пэрыодзе ад аднаго выезду да другога інструктар нагружаецца самымі рознастайнымі даручэньнямі, пры чым вельмі часта, ня маючымі ніякіх адносін ні к будучаму ні к праведзенаму абсьледваньню. Інструктар дзеля гэтага, звычайна, ня мае магчымасьці сачыць за тым, як выконваюцца прынятыя пастановы ў абсьледванай організацыі і ня можа, належна, падрыхтавацца к чарговаму выезду. Гэта, апрача таго, не дае магчымасьці інструктару азнаёміцца з кіруючай партыйнай літаратурай, дырэктывамі і пастановамі вышэйстаячых парторганаў, якія набраліся за час яго выезду.

Між тым, бяз гэтага і немагчыма правільная сур'ёзная праца інструктароў. Мы пагэтаму лічым, што інтарэсы справы патрабуюць большага ўпарадкаваньня працы інструктароў у прамежках паміж выездамі, у прыватнасьці разгрузкі іх ад шэрагу выпадковых даручэньняў ня зьвязаных з іх працай.

У зьвязку з гэтым стаіць пытаньне аб прымацаваньні інструктароў к раёнам і к асобным галінам працы. Там, дзе гэты вопыт практыкуецца, мы лічым неабходным замацаваць і распаўсюдзіць на ўсе організацыі. Пры акружкомах маюцца ад 2-х да 3-х інструктароў. На кожнага інструктара прыходзіцца, такім чынам, у сярэднім, па 4-5 раёнаў. Пры нагрузцы інструктара яшчэ азначанай галіной працы (падрыхтоўка пытаньняў, к оргнарадзе к коопнарадзе і г. д.) у яго будзе зусім даволі абавязкаў і бяз усякіх іншых даручэньняў.

Адносна-ж прымацованага раёну, на інструктара павінны ўскладацца гэтакія абавязкі: інструктар павінен заўсёды быць у курсе ста-

новішча парторганізацыі і вопыту яе працы; ён павінен сачыць за сваечасовым выкананьнем важнейшых партыйных дырэктыў, у прыватнасьці, пастаноў вышэйстаячых органаў аб гэтай організацыі; інструктар павінен таксама рабіць практычную дапамогу адпаведным партыйным організацыям у правядзеньні ў жыцьцё чарговых задач, якія ставіць партыя, шляхам прапрацоўкі пытаньняў на месцы, перадачы вопыту іншых організацый і г. д. Апрача таго, інструктар павінен браць удзел у падборы кіруючых працаўнікоў прымацованых раёнаў, а таксама прыцягвацца і ўдзельнічаць у працы розных аддзелаў парткому, савецкіх, профэсыянальных, коопэратыўных і іншых організацый па пытаньням, зьвязаным з прымацованымі раёнамі і для праверкі выкананьня гэтымі організацыямі рашэньняў парткомаў адносна прымацованых раёнаў. Вось круг абавязкаў інструктара ў прамежках паміж выездамі. Вядома, па заданьням Заг. Оргаддзелу і сакратара парткому інструктар можа прыцягвацца і к іншай працы, але ў кожным асобным выпадку неабходна браць пад увагу простыя абавязкі інструктара і, па магчымасьці, не адрываць яго ад іх.

Інструктары павінны мець для карыстаньня даведачную літаратуру (даведчык партыйнага працаўніка і г. д.), а таксама кіруючую пэрыодычную літаратуру і важнейшыя партыйныя пастановы (пастановы партыйных зьездаў, конфэрэнцый, пленумаў ЦК КП(б)Б, акруговых конфэрэнцый і г. д.). Пагэтаму мы лічым неабходным, каб такога роду літаратура і матэрыялы падбіраліся ў Оргаддзелах парткомаў у ліку экзэмпляраў адпавядаючых ліку інструктароў і каб яна захоўвалася ў партыйных камітэтах і пры замене інструктароў.

---

А. Лебедев

# О руководстве низовым советским аппаратом

*(Факты взяты из материалов НК РКИ)*

Проведенное ЦК и ЦКК КП(б)Б изучение деятельности низовых советских органов, обусловленной постановлениями высших органов нашей партии особенно после XIV партконференции, говорит наряду с значительными достижениями по руководству низовым аппаратом, о существенных недостатках. Вопрос же о руководстве, улучшении его усиливается тем, что низовые органы в силу нескольких причин довольно слабы, имеют малоподготовленный состав работников. Кроме того, слабость наших партячеек на селе и их работы не дает возможности наладить им достаточное руководство. Это, во-первых. Во-вторых—этого же требует наметившийся переход низового сов箇аппарата от деятельности административной к работе по руководству хозяйственной жизнью деревни и ее культурным строительством. Деятельность низового аппарата усложняется, должно улучшиться и руководство им со стороны партии и вышестоящих советских органов.

Не имея возможности разобрать все формы руководства и связи между звеньями нашего совaппарата, т. к. их очень много (от 10 до 15), остановимся на главнейших из них и наиболее распространенных.

Из-за неналаженности живой систематической связи и руководства со стороны Окриков и РИК'ов сельсоветами, наиболее распространенным способом является руководство бумажное. Но окружные учреждения и части РИК'ов слишком много надежд возлагают на эту форму руководства, увлекаются ею и перебарщивают; здесь мы имеем наибольшее количество бюрократических извращений. Приведем несколько таких примеров, говорящих не только о бесполезности, но и о большой вредности такого руководства. Помимо уже известного факта о выполнении циркуляра ВСНХБ об учете инфузорной земли, трепляка, фосфоритов, песка, годного для производства стекла, железной охры и других полезных ископаемых, разосланного в окружные учреждения, которые разослали его по РИК'ам, а последние по с/советам; помимо этого приведем другие примеры. НКСобес предложил окружным отделам провести выявление проституток, с целью проведения борьбы с проституцией. Цель благая. Бобруйский Окрсобес предложил всем РайККОВ выявить всех проституток, не указав способа. Некоторые РайККОВ разослали это распоряжение по с/советам, другие же отказались от такого поручения и ничего не сделали.

Один РИК просит все с/советы района провести учет пожарного инвентаря в совхозах. Бумажка идет по всем 10 с/советам, а совхоз во всем районе один. Комментарии к этим фактам излишни. Бывают и другого свойства недостатки в бумажном руководстве. Наркомзем разослал в апреле м-це прошлого года циркуляр в округа о принятии

мер против возникновения эпизоотий. Бобруйским Окрзу циркуляр посылается некоторым районам через 4 м-ца, попадает в середине августа. Конечно, нужное мероприятие РИК'ом не обсуждено и ничего не сделано. Или еще: п/отдел сельского хозяйства посылает один циркуляр по РИК'ам, через два с лишним м-ца этот же циркуляр посылается по РИК'ам же Инспекториатом Лесов.

В результате всего этого низовые органы стонут от наплыва на них бумажного моря, требующего подчас сложной работы, а иногда ничего не дающие. Прибавим к этому еще изобилие всякого рода анкет, распространяемых различными органами, с сотнями ни для кого не нужных вопросов и мы должны будем притти к выводу о необходимости сокращения до минимума посылки бумаг в низовые органы и более вдумчивого отношения ко всякому заданию.

Посылая такие бумажки, наши разветвившиеся в центре органы забывают, что многое стекается в с/совете, где аппарат состоит из 2-3 крестьян-работников, нуждающихся в помощи.

Наиболее организованно проводятся обследования специальным инструкторским аппаратом некоторых органов. Но и здесь имеются очень существенные недостатки. Прежде всего, обследований очень много; например, Глуский РИК и его учреждения в 1926 г. были обследованы 15 раз. Это серьезные обследования, о мелких мы не говорим. Посетило этот РИК за год более 100 чел. из вышестоящих органов. Существенным недостатком обследований нужно считать то, что обследовавшие часто не оставляют никакого материала на местах, не делают докладов учреждениям о проделанной работе и не привлекают к обследованию сотрудников данного учреждения.

Обследования с/советов членами РИК'ов проводятся без планов, без ясно поставленной цели обследования, без рабочей программы. Материалы в письменной форме тоже часто не оставляются и иногда даже не делаются записи в книгах посещений.

Много еще проводится обследований общего характера „вообще“ и недостаточно обследований отдельных отраслей работы низового аппарата, отдельных сторон жизни районов. Это не дает возможности изучить работу, как следует и детально наметить пути более лучшей постановки ее. Основным же недостатком инструкторских работ является почти полное отсутствие инструктирования. Например, часто отмечается бесплановость в работе низового аппарата, но почти никогда не оказывается помощи по составлению планов и по налаживанию плановости. Мне же кажется, что мало указать, найти недостатки, нужно сделать ясными и пути к их устранению.

Таким образом, окружные и центральные органы часто проводят обследования (так же, как и бумажное руководство) не с целью обслуживания низового советского аппарата, не для него, а для себя. Используются ли все материалы обследований в органах обследовавших—сказать трудно.

Основными причинами такой постановки работы являются:

1) Отсутствие контроля и руководства обследовательской работой. Окрики не ведут учета обследований, проводимых его органами, а каждый отдел проводит эту работу самостоятельно.

2) Слабость инструкторского аппарата в округах. Этому вопросу на местах не уделяется должного внимания, в Бобруйском Окрике за 1926 г. сменилось 10 инструкторов, получается „проходной двор“, как выразился один товарищ. Если принять во внимание, что работа инструктора довольно сложна, требует значительного навыка, особенно при инструктировании, то такие явления нельзя считать нормаль-

ными и необходимо подбор инструкторского аппарата проводить самым тщательным образом. Кроме того, нужно не упускать из виду, что хорошо поставленная работа инструкторского аппарата дала бы возможность наладить проверку выполнения директив, область работы, имеющую в настоящий момент такое важное значение. Работу инструкторского аппарата нужно поставить так, чтобы она была главнейшей в нашей системе: во 1) по осуществлению контроля за выполнением, 2) по выявлению причин неналаженности работы, и 3) по инструктированию, даче указаний о постановке работы в обследуемых органах. При правильном использовании инструкторского аппарата, мы к этому будем иметь гораздо больше возможностей, чем при каких-либо других способах руководства и связи.

Два слова о практическом руководстве по работе низовых хозяйственных организаций. Окружные органы при утверждении смет, планов хозяйственной деятельности низовых органов иногда довольно формально подходят к вопросу, рассматривают не по существу, упуская возможность руководства развитием нашего хозяйства этим способом. Приведем наиболее яркий пример такого отношения к сел.-хоз. артели „Искра" Бобруйского округа. (Примеры из Бобр. окр. нами приводятся потому, что там было проведено обследование. Артель эта имеет все нужное для ее развития и когда то работала не плохо. Но в одно время Окрсельсоюз навязал артели жеребца, который для обслуживания крестьянского хозяйства не пригоден. Немного позднее „дали" артели молотилку, не подходящую в местных условиях и потому стоящую мертвым капиталом. После этого артели „помогли" приобрести трактор, приносящий ей пока одни убытки. В последних, кажется, обоих случаях, помимо Окрсельсоюза, членом которого является артель, „помощником" явился Центроземсклад. Эти „мероприятия" поставили впоследствии артель в затруднительное положение и повлияли на развал артели, которая сейчас реорганизуется. Этот пример говорит о неумелом руководстве, излишней опеке вышестоящих органов, не способствовавших правильному развитию артели. Это, несмотря на то, что в сельском хозяйстве мы имеем мало коллективов, и должны всеми мерами способствовать их развитию и развитию идей коллективизма, а не наоборот, как получилось в данном случае.

Все больше начинает входить в практику работы советских органов устройство расширенных пленумов, проведение этих пленумов в сельсоветах и деревнях и устройство совещаний из работников одной отрасли. Путем этих заседаний и совещаний нашим органам удается все больше и больше увязывать свою работу с трудящимися массами и втягивать их в обсуждение постановки работы и в самую работу. Для нас же в данном случае важно отметить возможность руководить работой низовых органов, помогать им. Особенно много дают совещания по отдельным вопросам работы (краткосрочные курсы); через них, обсуждая на них подготовку и методы проведения работ, наши органы имеют большую возможность руководить низовым аппаратом. К сожалению, часто совещания проводятся без должной подготовки к ним и поэтому не дают нужного результата; кроме того, недостаточно используются возможности, мало устраивается на местах таких совещаний.

Систематическое руководство со стороны низовых партийных организаций советской работой осуществляется слабее, чем по нисходящей советской линии, о чем мы выше говорили. Наши партийные организации на местах все еще не придают того серьезного значения вопросам руководства работой других организаций, какое необходимо на самом деле.

Мы имеем большие достижения в области насыщения партийцами аппарата РИК'ов и даже с/советов, что говорит к тому же и об огромном доверии со стороны кр-н к нашей партии. Руководство партии увеличивается еще тем обстоятельством, что работники президиумов РИК'ов и с/сельсоветов часто являются членами Бюро Райкомов и сельских ячеек. Но это в аппарате РИК'ов и с/советов. По другим же органам количество партийцев в аппарате значительно меньше и часто сходит на нет. Если взять кооперацию, то там партийцев уже меньше, особенно в с/хозяйственной, то же в КОВ, добровольных об-вах и т. д. Это все ставит перед нами задачу о необходимости большего выделения партийцев на постоянную работу в эти органы, с одной стороны, и с другой—об усилении руководства другими, имеющимися у нас, способами.

Несмотря на наличие в аппарате советских органов значительного количества партийцев, работа фракций, даже при РИК'ах, и руководство через них проходит довольно плохо.

Прежде всего, фракции организуются не во время; например, при Россонском РИК'е оформлена осенью 1926 г., несмотря на имевшуюся возможность сделать это сейчас же после выборов РИК'а. Такие факты говорят о том, что Райкомы не всегда придают нужное значение вопросам партруководства. О своевременности организаций фракций и правильности их работы при сельских и местечковых советах, КОВ и других организациях говорить уже не приходится, а возможности к организации иногда имеются.

Второй причиной плохой работы фракций при РИК'ах является бесплановость. Фракции планов не имеют, поэтому Райкомы не могут установить систематическую увязку в работе (своей и фракции) и руководство фракциями. Важнейшие вопросы планов работы РИК'ов редко прорабатываются во фракциях и в Райкомах КП(б)Б. Кроме того, Райкомы и помимо планов редко дают задания фракциям о проведении тех или иных мер; отсюда среди вопросов, проработанных во фракциях, преобладают мелкие, часто технического порядка; вопросы же принципиального характера (в об'еме работ данной фракции) почти отсутствуют.

Из всего сказанного получается, что руководство низовым советским аппаратом осуществляется в большей степени сверху вниз и менее местными партийными ячейками и даже Райкомами. Помимо слабости деревенских ячеек и недостаточной их приспособленности к работе, имеются другие причины, к устранению коих можно подойти сейчас же и кой-что можно сделать.

Прежде всего, иногда партийцы деревни не состоят членами крестьянских об'единений (с/хоз. и кредитная кооперация, артели КОВ и т. д.), что затрудняет для ячеек возможность проводить свою работу в этих об'единениях.

Слаба помощь в работе ячеек со стороны Райкомов. Подчас в РК, кроме секретаря, нет постоянных работников-партийцев, могущих в достаточной степени помогать в работе ячеек. Секретарь же перегружен работой в районных учреждениях и кампанейского характера, выезды же в ячейки требуют много времени из-за их разбросанности, и поэтому не может уделить должного внимания работе ячеек. Партийцы-работники районов (члены РК, в первую очередь) из-за перегрузки тоже не всегда могут быть использованы на этой работе. Кроме того, и сами РК не придают должного значения руководству работой ячеек и не все возможности используют. В налаживании этого рода руководства существенную помощь РК может и должен оказать инструкторский аппарат ОК, который, по моему, необходимо усилить.

Помимо всего этого, по моему мнению, работу РК в значительной степени облегчило бы более стройное организационное построение ячеек в местечках, где находятся районные центры. Во многих из них, несмотря на наличие нескольких десятков партийцев, имеется одна ячейка, которая должна вследствие этого об'ять необ'ятное, руководить через своих членов многими организациями и учреждениями. Понятно, что при таком положении она не может достаточно хорошо поставить работу, и руководство ее сводится к заслушиванию отчетных докладов, и при том очень редко. По отдельным важнейшим мероприятиям и вопросам работы учреждения, работающие там партийцы достаточных указаний не имеют. По моему мнению, организационные принципы сельской ячейки для многих районных центров не приемлемы, там нужно строить ячейки по производственному принципу (кооператив, РИК, сельско-местечковый совет, предприятия и другие учреждения). Это дало бы возможность Райкомам в значительной степени улучшить руководство, облегчило бы его работу, дало бы возможность больше уделить внимания проверке решений, что также способствовало бы улучшению постановки руководства. Других выгод, например, расширение партийного актива я здесь не касаюсь.

Не затрагивая других форм связи и руководства, я остановился на достижениях и недостатках по главным из них, коснувшись причин, затрудняющих правильное налаживание руководства низовым советским аппаратом. Также мною не освещен здесь вопрос о системе, об органах, осуществляющих в основном руководство (ЦИК, СНК и НКВД) их информационные и организационные отделы и о согласовании между ними этой деятельности. Этот вопрос в скором времени будет прорабатываться в НК РКИ.

А. С—кі

# Перавыбары саветаў і пытаньні пролетарскай гегемоніі

(*Па матэрыялам перавыбараў у Мозырскай акрузе*)

Не прэтэндуючы на вычарпаньне тэмы, мы тым ня менш, на важнейшых, прынцыпова практычных момантах, выявіўшыхся ў працэсе падвядзеньня ітогаў апошніх перавыбараў саветаў і маючых значэньне ня вузка-акруговае, лічым неабходным застанавіцца.

Перш усяго, гэтае пытаньне аб об'ектыўнай сапраўднасьці росту палітычнай актыўнасьці ўсіх пластоў насельніцтва,—у прыватнасьці сялянства.

Гэты рост у Мазыршчыне, ня гледзячы на раскіданасьць насельніцтва і вялікую яго гаспадарча-бытавую і культурную адсталасьць, у параўнаньні з іншымі часткамі Беларусі, выражаецца ў павялічэньні ўдзелу сялянства ў перавыбарах з 50,01 проц. у мінулым годзе да 54,6 проц. у сёлетнім, пры росьце проценту ўдзелу жанчын у выбарах з 27,2 проц. да 36,5 проц.; рост удзелу рабочых у перавыбарах Гарсавету—з 69,75 да 88 проц., пры росьце проценту ўдзелу ў выбарах жанчын з 26,73 да 68,5 проц.

У скутку гэтага некаторыя таварышы ставяць пытаньне ў такім выглядзе:

Ці не зьяўляецца гэта выключна скуткам павышэньня нашай партыйнай актыўнасьці ва ўсёй перавыбарнай кампаніі?

А калі і так, то ці маем якую-небудзь падставу па росту лічбаў удзелу ў выбарах заключаць аб росьце палітычнай актыўнасьці насельніцтва, аб росьце грамадзка-палітычнае ўвагі яго да Саветаў?

Частка гэтых сумняваючыхся ў пастаноўцы такіх пытаньняў ідзе яшчэ далей, кажучы: Ці ня трэба была-бы нам, партыі,—у інтарэсах болей об'ектыўнага выяўленьня актыўнасьці насельніцтва, некалькі менш выяўляць сваю, партыйную актыўнасьць па мобілізацыі грамадзкае ўвагі навакол задач перавыбараў.

Гэткія настроі думак зьяўляюцца зусім няверрнымі. Канешна, наш партыйны актывізм і колькасна і якасна ў сёлетнім годзе быў значна вышэй мінулага году, і гэта ролю сваю адыграла.

Але няўжо-ж наша організацыйна-агітацыйная актыўнасьць-нагэтулькі ўсёпраадалеваючая велічыня, што 25-30 градусныя маразы, як раз і саўпадаючыя з момантамі перавыбараў для яе нішто, што яна нават мае мажлівасьць замяніць адсутнасьць у бедняка каня і цёплага кажуха?

Ну, а што-ж рухала тымі грамадзянамі, якія ўжо зарэгістраваўшы сваю яўку на перавыбары, тым, ня менш стаялі на вуліцы, чакаючы на вялікім марозе, іх вынікаў? Ці што змушала грамадзян вёскі

так доўга сядзець у духаце, што лямпа гасла, для таго, каб па кожнаму дакладу выслухоўваць дзесяткі выступленьняў з дзелавой крытыкай і дзелавымі пропозыцыямі?

Так,—роля нашай актыўнасьці ў перавыбарнай кампаніі ні ў якім разе не малая, але, у асноўным, яна зводзілася да таго, каб актыўнасьць, об'ектыўна меўшуюся, організаваць, рацыянальна накіраваць, адпаведна соцыяльна-клясавым задачам пролетарыяту ў даны момант; каб рэалізаваць на перавыбарах тую рабочую, бедняцка-серадняцкую актыўнасьць, якую мы ў штодзённай працы абуджаем і накіроўваем.

Вось тое, коратка, што можна адказаць скептыкам.

Што-ж а тычыцца „об'ектывістых", то ім зьяўлячымся часам сьведкамі організацыйна-агітацыйных паездак кулакоў, па два тыдні вандраваўшых па вёсках за бедняцка-серадняцкімі галасамі; ведаючым што больш, чым калі-небудзь раней, у сёлетнім годзе, кулакамі было загублена шынкі, каўбасы, самагону і іншага дабра на задабрываньне,—ім, па меншай меры, належала-бы задумацца над пытаньнем прабываньня іх у партыі клясавай барацьбы, партыі дыктатуры пролетарыяту.

Другім буйным, прынцыпова-практычным пытаньнем, усплываючым пры падвядзеньні ітогаў перавыбараў, аб незамазваньні партыйнага твару нашага, аб замацаваньні і чоткім выяўленьні пролетарскай гегемоніі.

Што посьпехі нашы, у гэтых адносінах, бязумоўны, зноў-жа сьведчаць і лічбы і факты:

Процант абраных у Сельсаветы членаў КП(б)Б і ЛКСМ супроць мінулага году натуральна ўзрос з 7,5 да 10,13 проц. з 6,3 да 7,41 проц., а процант жанчын з 8,7 да 9,14 проц.

Такога-ж роду лічбы мы маем і ў адносінах да складу Гарадзкіх Саветаў і РВК.

Мы маем багацейшы матэрыял з перавыбараў, які сьведчыць аб замацаваньні бедняцка-серадняцкага блёку, аб тым, што ў шэрагу выпадкаў пролетары вёскі, працаўнікі рабземлесу, сваім актыўным умяшаньнем, становяцца на чале бедняцкага-сярадняцкага блёку, вырашалі палітычныя вынікі выбараў.

Кандыдатуры адкрыта высоўваліся ад імя партыйных ячэек і сходаў беднаты і амаль ня разу не правальваліся.

Але пытаньне ня толькі ў тым, што мы пад час перавыбараў выявілі рост об'ектыўных позыцый пролетарскай дыктатуры, рост аўтарытэту і ўплыву партыі, не хаваючы свайго твару,—бо пытаньне і ў тым, наколькі бедняцка-серадняцкія масы ўспрынялі і ўспрымаюць партыйнае кіраўніцтва, як кіраўніцтва авангарду іменна пролетарыяту і наколькі сама партыя на перадвыбарных і перавыбарных сходах і ва ўсіх падходах да сялянства адкрыта і акрэсьлена выяўляючы сябе, як авангард іменна пролетарскі.

Вось на гэтым-та моманце падкрэсьліваньня класавай істоты партыі, у якіх адносінах мы ўжо далёка пашлі ўперад, нашы працаўнікі ў вёсцы ўсё яшчэ даволі нярэдка дапускаюць паслабленьні і недастатковую чоткасьць.

Вёска бачыць, ведае і адчувае партыю. Што-ж а датычыцца пролетарскай дыктатуры, то яна больш усяго ўясьняе сабе яе ў форме матэрыяльнага, культурнага і прававога прывілегіpованага становішча, —у першую чаргу, служачага і, у меншай ступені, рабочага, да чаго яна, разумеецца, і да гэтага часу адносіцца хоць і з значна аслабеўшым, але далёка яшчэ ня зжытым пачуцьцём зайздрасьці.

Вёска ведае партыю і ўспрымае яе, як організацыю рабоча-сялянскую з бедняцкім ухілам,-- організацыю, накіроўваючую і кіруючую ўсёй працай Савецкай улады.

Нават бедната, якая, бязумоўна, як гэта ў дастатковым стопні выявілі перавыбары, ужо асазнала сябе апорай партыі і ўлады ў вёсцы, дастаткова не ўясьняюць сябе пролетарска-масавага характару партыі і ўлады.

І, зусім слушна, гэта проблема ўнясеньня яснасьці ў гэтае пытаньне, ужо не аднойчы партыяй падкрэсьлівалася, павінна, урэшце, атрымаць сваё ажыцьцяўленьне.

Усякія хістаньні ў пытаньні гэтым павінны быць адмецены са ўсёй бальшавіцкай катэгорычнасьцю.

Бо менавіта нячоткая пастаноўка пытаньня гэтага ў вёсцы ў значным стопні і дае повад да усякага роду нацыянальна-дэмократычных ілюзій у нашай інтэлігенцыі; зьніжае ў сузнаньні сялянства соцыяльна-політычную ўдзельную вагу пролетарыяту, адначасова не выклікаючы ў самой беднаце, па сутнасьці напоўпролетарах ясных пэрспэктыў далейшага разьвіцьця свайго і здаровага адчуваньня сябе клясавым братам пролетарыяту ў яго будаўніцтве.

Гэта садзейнічае засьмечваньню ідэолёгічных настрояў думак нашых працаўнікоў у вёсцы ўсякага роду „рабоча сялянскімі“, а папросту кажучы, дробна-буржуазнымі настроямі; перашкаджае сплачэньню беднаты, батрака і сельска-гаспадарчага рабочага ў тую сілу, якой у пародзе зьяўляецца пролетарыят,—востраму ўсьведамленьню беднатой усёй неабходнасьці яе блёку з серадняком; гэта ўрэшце, пролетару перашкаджае адчуць тую магутную бедняцка-батрацкую і рабочую апору ў вёсцы, якая-б павялічыла-бы будаўнічыя сілы будаўнікаў, як гарадзкога пролетара, так напоўпролетара вёскі, шчыльней зблізіўшы горад з беларускай вёскай.

Ясна, што незамазваньне партыйнага твару ў вёсцы павінна быць поўным, усебаковым, вычэрпальным чотка ставячым перад ёй факт пролетарскай гегемоніі.

І, у зьвязку з гэтым пытаньнем, перавыбары, выкрыўшыя значны рост позіцый пролетарыяту, высунулі задачы пролетарскай гегемоніі і ў другім напрамку.

Усе матэрыялы па перавыбарах сьведчаць аб гіганцкім росьце культурных запатрабаваньняў вёскі, нярэдка прынімаючых форму зайздросьці к пролетарыяту гораду.

Школа, мэдычная і вэтэрынарная дапамога, тэатр, радыё, кіно, вадаправод, тратуары, электрасьвятло і г. д. і т. п.—Усё гэта становіцца об‘ектам зайздрасьці, маючай для вёскі і свой адваротны бок: пролетарскаму гораду зайдросьцяць, але адначасова і цягнуцца да яго, і ў гэтым і station... 

Побач з непасрэднымі мерапрыемствамі па далучэньню вёскі да гарадзкой-пролетарскай культуры ў форме больш энэргічнага прасоўваньня ў вёску хаты-чытальні, бібліотэкі, кіно, радыё (бяз хронічнай хрыпаты), пашырэньня—школьнай і мэдычнай сеткі (усё яшчэ не дастаткова павярнуўшыся да вёскі), трэба было-б павесьці сыстэматычную працу па растлумачэньні па пытаньні вясковай зайздрасьці ў нашым пэрыодычным друку (да рэчы, у нашых беларускіх умовах значная доля з фонду зарплаты ідзе іменна ў вёску).

Але трэба таксама выкарыстаць і адваротны бок вясковай зайздрасьці,—імкненьне к пролетарскаму гораду, значна ўзмацніўшы ўплыў яго.

Трэба, каб задача пролетарскай гегемоніі, пролетарскага ўплыву на вёску—непасрэднага і пасрэднага—вайшло ў поле штодзённае ўвагі гарадзкіх пролетарскіх організацый, - Гарсаветаў, профсаюзаў, коопэрацыі і г. д.

Ня можа пасьпяхова ўцягваць у справу колектывістычнага будаўніцтва той, хто на прыкладзе, рэальным показам ня можа засьведчыць уласную перавагу сваю колектывізму; хто ня можа ў рэчавістасьці адчуваючa дэмонстраваць перавагі колектывізму.

Дастаткова адчуваемае домінаваньне ў горадзе коопэрацыі і колектывізаванае вытворчае працы, яскрава адбітымі экономічнымі перавагамі над працай і прамысламі індывідуальнымі, з экономічным спрыяньнем селяніну,—у нашых, беларускіх умовах зьявіцца больш магутным фактарам уцягненьня вёскі ў соцыялістычнае будаўніцтва, болей магутным фактарам па зжыцьцю зайздрасьці, чым дзесяткі і сотні агітатараў і брошур у вёсцы.

І гэткія зьявішчы, як адчуваемае выпіханьне з гарадзкога рынку прыватніка-гандляра, прыватніка-вытворцы, замена іх працай і гандлем колектыўнымі, як найбольш магутнымі фактарамі вазьдзеяньня на вёску, да гэтага часу намі ўлічваліся недастаткова.

Трэба ня толькі памножыць і ўдасканаліць нашыя працоўныя колектывы і ў горадзе і ў мястэчку, трэба цьвёрдай рукой крута абярнуць іх—і па характару, і якасьці продукцыі, і па цане—у бок вёскі.

Коопэратыў і працколектыў у горадзе ці ў мястэчку не выяўляючыя сваіх пераваг, пераваг перад прыватнікам ці з устаноўкай на абслугоўваньне выключна гарадзяніна—найшкадлівейшая агітацыя супроць пролетарскага колектывізму.

Нашым Гарсаветам і Профсаюзам трэба праяўляць і больш шырокую ініцыятыву ў справе ўнядрэньня колектывістычных начынаньняў і ў гаспадарча-бытавое жыцьцё пролетарскага гораду, як толькі мажліва выкарыстоўваючы, у гэтых інтарэсах, пролетарскую самадзейнасьць.

Трэба Гарсаветы і Саюзы нашы з некаторай замкнутасьці іх у межах амаль выключна гарадзкіх інтарэсаў, вывесьці, у іх грамадзкай актыўнасьці на шырокі шлях сьвядомага грамадзка-палітычнага, культурнага і гаспадарчага садзеяньня і на вёску.

У гэткай, прынцыповай і практычнай, пастаноўцы пытаньня для гарадзкога пролетара, які-б ня быў нацыяльны склад яго, мы бачым шырачэзны выхад з уздыму грамадзка-палітычнай актыўнасьці нашага пролетарыяту: для эмансіпацыі яго ад бундаўскай і ўсякай іншай цэхаўшчыны.

Гэта-ж паслужыць к запаўненьню больш жывым творчым зьместам грамадзка-палітычнай актыўнаўсьці рабочых, ухіленьню тых момантаў вясковай зайздрасьці, якую мы вышэй адмячалі; усьведамленьнем пролетарыятам гораду і пролетарыятам і напоўпролетарыятам вёскі сваёй непадзельнасьці; павышэньне сузнаньня адказнасьці існуючага, а ня мысьлімага пролетарыяту, за сваю гегемонію.

---

# НА МЯСЦОХ

Катушкін

## Унутрывыхаваўчая праца ў Бабруйскай організацыі

Побач з усёй працай па гаспадарчаму, савецкаму і культурнаму будаўніцтву, акруговай організацыяй КПБ вядзецца вялікая ўнутрывыхаваўчая праца. З пачатку навучальнага году і на ўсім працягу яго Акругком і Райкомы змаглі стварыць такі інтарэс вакол партвучобы, стварыць у організацыі такую вучэбную атмасфэру, што сто-процантны абхоп організацыі партшколамі і політгурткамі не дазволілі толькі ўмовы жыцьця і дзейнасьць асобных партыйцаў. Гэтым самым Бабруйская організацыя вырашыла і пытаньне аб дабраахвотнасьці вучобы ўва ўсіх яе ступенях.

Праведзеная за апошнія два гады ў акрузе партасьветная праца ставіць перад акруговым камітэтам пытаньне аб стварэньні такіх форм партыйнае асьветы, якія-б садзейнічалі далейшаму прасоўваньню партыйцаў у гору па сыстэме партыйнае асьветы, па аўладаньню марксысцка-ленінскім вучэньнем. У сувязі з ростам політычнага ўзроўню організацыі, Акругкому прышлося ўжо ў гэтым годзе ўвясьці некаторыя корэктывы ў сетку і формы партасьветы. Калі ў мінулым годзе гарадзкая сетка абхоплівала: скарочанай школай 607 партыйцаў і нормальнай 436, то ў сёлетнім годзе: скарочанымі абхоплена 452 партыйцы а нормальнымі 482 і організавана вячэрняя соўпартшкола, абхапіўшая 58 партыйцаў, якой у мінулым годзе ня было.

Апрача таго, у гэтым годзе значная частка партыйцаў пераведзены на самаадукацыю. Таксама і ў вёсцы. Побач з агульным пашырэньнем політшкол, у гэтым годзе было організована 4 стацыянаркі вышэйшага тыпу і восем выпускаў вышэйшага тыпу перасовак. Нам здаецца, што застаўляючы ў асноўным усе тыя-ж формы і на наступны год трэба будзе, наколькі можна, павялічыць удзельную вагу вышэйшых форм і прадметных гурткоў самаадукацыі ды гурткоў актыву. Ясна, што гэтыя вышэйшыя формы партасьветы і асабліва гурткі актыву і самаадукацыі ўскладняюць працу пропагандыстых, патрабуюць ад іх больш кваліфікацыі і часу на падрыхтоўку, роўна як ускладняюць і кіраўніцтва гэтай працай агітпропам, асабліва кіраўніцтва самаадукацыяй, якое да гэтага часу яшчэ вельмі слабае. Але-ж рост політычнага ўзроўню організацыі ні ў якім разе не павінен спыняцца з прычыны цяжкасьці і складанасьці гэтае працы.

У пачатку гэтых нататкаў ужо былі паказаны лічбы абхопу партыйцаў рознымі гарадзкімі партшколамі. Агульны абхоп гарадзкой сеткай партшкол дасягае амаль што 1000 чалавек. А ў вёсцы, такса-

ма, як і належыла чакаць, недахоп першае паловы навучальнага году ў адносінах абхопу партыйцаў выпраўлен за кошт стварэньня трэцяга выпуску перасовак. І такім чынам перасоўкамі будзе абхоплена каля 300 партыйцаў, ды стацыянаркамі 126, што разам з горадам складае 1420 партыйцаў, абхопленых толькі школьнай сеткай, або 73,5% усяе парторганізацыі па складу на 1 красавіка 1926 году і 60,47% па складу на 1 красавіка 1927 г. Калі далучыць да гэтага яшчэ шмат партыйцаў, займаючыхся самаадукацыяй, дык партасьветную працу ў Бабруйшчыне можна характарызаваць двума словамі—арганізацыя вучыцца.

Як-жа вучыцца, якая якасьць гэтае вучобы. Гэта больш важнае пытаньне, чым пытаньне колькасьці, і якая горш паддаецца ацэнцы. Немагчыма нават падабраць агульную формуліроўку для ацэнкі якасьці ўсяе партвучобы. Таму што тут мы маем ня толькі неаднолькавай якасьці пропагандыстых, але і неаднолькавыя ўмовы і неаднолькавую здольнасьць працаўнікоў райкомаў, якія арганізуюць партшколы, кіруюць імі, дапамагаюць у іх працы. Каб мець прадстаўленьне аб якасьці партвучобы, неабходна хаця-бы ў самых кароткіх рысах высьвятліць працу асобных тыповых школ. Пры наведваньні нормальнае партшколы была паўторна-праверачная гутарка. Кіраўнік ставіць галоўнейшыя пытаньні па ўсёй програме. Слухачы ў 2-3 хвіліны даюць на іх адказы. Па шмат пытаньням выказваюцца па 3-4 слухачы; завязваюцца спрэчкі. Праўда ў іх выступленьнях заўважваецца лішняе шматслоўе, адсутнасьць яснасьці і лёгічнасьці ў вылажэньні сваіх думак. Але-ж відаць, што гэтыя галоўнейшыя пытаньні імі ўцямлены. Памылка кіраўніка тут была ў тым, што ён мала зьвярнуў увагі на паўтарэньне, а больш на праверку і пагэтаму высоўваемыя пытаньні не растлумачваў, хоць у выступленьнях слухачоў і былі памылкі.

Горшае ўражаньне вынесена аб скарочанай партшколе. Папершае, гэта—на паўторна-праверачныя заняткі сабралася вельмі мала слухачоў. Падругое—заўважвалася вельмі нізкая актыўнасьць гэтых слухачоў. З іх адказаў на пытаньні кіраўніка было відна, што як-быццам яны іх пачулі ў першы раз. І патрэцяе, што і самыя пытаньні ставіліся кіраўнікам вельмі няўдачна.

Зусім іншае ўражаньне стварыла вячэрняя саўпартшкола. Па складу слухачоў гэтая школа зьяўляецца сапраўднай школай актыву. Тут сакратары і апоргі ячэек, працаўнікі райкомаў і кіраўнікі савецкіх, гаспадарчых, профсаюзных і іншых акруговых устаноў. Актыўнасьць і дзелавітасьць выступленьняў на занятках слухачоў гэтае школы ўпаўне адпавядае яе складу. Мэтод заняткаў у гэтай школе—лябараторны, з папярэдняй конфэрэнцыяй, на якой высьвятляюцца ўсе галоўнейшыя моманты тэмы і даецца заданьне з растлумачэньнем, як трэба прапрацоўваць гэтую тэму і якімі матэрыяламі карыстацца. Пасьля самастойнай прапрацоўкі зноў зьбіраецца конфэрэнцыя, дзе гэта тэма разьбіраецца канчаткова. Пры наведваньні гэтае школы была паўторна-праверачная конфэрэнцыя. Адзін з слухачоў напісаў на дошцы плян дакладу, па якому і рабіў даклад, а ўсе слухачы з алоўкамі ў руках і перад сваімі конспэктамі сачылі за дакладчыкам. Апошні на працягу 25 хвілін высьвятляе галоўнейшыя моманты цэлага разьдзелу програмы. Правільнасьць і яснасьць тлумачэньня дакладчыкам высунутых у пляне пытаньняў, не пазбавіла яго ад адказаў на шмат пытаньняў, зададзеных яму пасьля дакладу другімі слухачамі. Па гэтым-жа, галоўным чынам, пытаньням былі затым разгорнуты і спрэчкі. Выступаўшыя ў спрэчках ня супярэчылі дакладчыку, а толькі дапаўнялі яго. У зьвязку з тым, што тэма была паўторная, падагуліваючая раней пройдзе-

нае, спрэчкі хутка былі спынены. Але кіраўнік з мэтаю паглыбленьня прапрацоўкі гэтага разьдзелу, высунуў дадаткова некалькі досыць складаных пытаньняў, па якім спрэчкі былі працягнуты. І трэба сказаць, што ня гледзячы на складанасьць і тэорытычнасьць гэтых пытаньняў, слухачы, калі ня лічыць невялічкіх памылак асобных таварышоў і некатарага ўпрашчэньня, усё-ж у агульным знашлі правільныя адказы. У сваёй заключнай прамове кіраўнік правільна і вельма ясна растлумачыў асобныя незразумеласьці з гэтай тэмы і як трэба разумець высунутыя ім пытаньні. Як відаць, і кіраўнік упаўне адпавядае сваёй аўдыторыі. Але-ж было-б больш мэтазгодным асобныя галоўнейшыя і складаныя пытаньні разьбіраць паасобку і кіраўніку даваць сваё заключэньне на кожнае з іх паасобку, а не пераносіць гэтае заключэньне па ўсім пытаньням разам у канец.

У прыватнай гутарцы з слухачамі гэтае школы і з працаўнікамі АПА высьвятляецца, што вячэрняя соўпартшкола зьяўляецца самай лепшай формай узьняцьця тэорытычнага ўзроўню партактыву, што гэта школа вельмі многа дала ўжо ў сёлетнім годзе і што пажадана яе зрабіць двухгадовай пры ўмове пабудаваньня такой програмы, каб яна за кожны год давала нешта цэлае—закончанае.

Абслугоўваньне школьнай формай партасьветы вясковых партыйцаў, як відаць з прыведзеных лічбаў, у агульным здавальняючае. Але цяжкасьцяй тут непамерна больш, чым у горадзе. Раскіданасьць партыйцаў па вёскам раёнаў, якія па шырыне тэрыторыі нязвычайна вялікія і малыя колькасна вясковыя ячэйкі, якія ў асобку ня могуць даць асноўнага ядра для школы-перасоўкі. Дзеля гэтага прышлося зьбіраць у перасоўкі партыйцаў амаль што з усіх ячэек раёну, незалежна ад аддегласьці іх ад месца працы перасоўкі. А гэта выклікала неабходнасьць зьнімаць гэтых партыйцаў з іх штодзённай працы, забясьпечваць неабходнымі сродкамі і трымаць іх пры школе на працягу ўсяго часу яе працы. Такім чынам Бабруйскія перасоўкі пахадзілі на раённыя курсы-зьезды.

Організацыя такіх перасовак не заўсёды апраўдвалася, таму што адрыў ад штодзённай працы партыйцаў на паўтара-два месяцы дрэнна адбіваецца і на працы тых органаў, адкуль яны зьняты, і на гаспадарках тых партыйцаў, якія жывуць на сваіх гаспадарках. І, урэшце, такія перасоўкі вельмі каштоўны. Але з пункту погляду якасьці вучобы, трэба сказаць, што яны лепш, чым працуючыя па вечарам, або 4 дні ў тыдзень.

Як недахоп, які ўжо нічым не апраўдваецца, трэба адзначыць ня добры выбар месца для працы перасовак у некаторых раёнах. Так напрыклад, у Жлобінскім раёне было зроблена на адным месцы тры выпускі і па гэтаму ў апошнім выпуску з 23-х слухачоў перасоўкі ніводнага ня было з мясцовых ячэек—партыйнай і комсамольскай. Ды і з бліжэйшых ячэек (у 15—20 вёрст) было вельмі мала. Большасьць-жа слухачоў былі сабраны за 40—60 вёрст.

Другім недахопам у організацыі перасовак вартым увагі, зьяўляецца адсутнасьць у іх беспартыйных сялянскіх актывістых. У некаторых перасоўках беспартыйныя сяляне і былі, і нават у вялікай колькасьці, але назваць іх актывістымі ні ў якім разе нельга. У перасоўцы другога Бабруйскага раёну з 35 слухачоў было 11 беспартыйных, з якіх амаль ніхто ніколі ня быў ніякім актывістым. Гэта проста хлапчукі ў 17-18 гадовым узросьце, якім нечага было рабіць у гэты час у сваіх гаспадарках, дык яны пайшлі ў школу. А ў другіх школах беспартыйных зусім ня было.

Гэтаму, як нам здаецца, да некаторай ступені садзейнічалі і тыя прынцыпы, на якіх там укомплектоўваліся перасоўкі і адпускаліся сродкі на дапамогу слухачом. Райкомы рабілі раскладку для накіроўваньня ў перасоўку ячэйкам толькі на партыйцаў і часткова на комсамольцаў, а беспартыйных накіроўвала толькі адна бліжэйшая ячэйка. Гэта рабілася так таму, што сродкі на харчавананьне слухачоў адпускаліся толькі слухачам-партыйцам і невялікай часткі комсамольцаў, беспартыйныя-ж з гэтай дапамогі былі выключаны. Ясна, што пайсьці за 30—50 вёрст у школу на $1^1/_2$—2 месяцы пры такім становішчы беспартыйныя сапраўдныя актывістыя не маглі. Трэба было гэтую дапамогу слухачом даваць не па прызнаку партыйнасьці, а па прызнаку іх забясьпечанасьці, сваімі сродкамі, паколькі лічылася неабходным узяць іх у школу і паколькі немагчыма забясьпечыць усіх.

Больш таго, нам здаецца, што як ячэйкі, так і райкомы ня ведаюць свайго беспартыйнага актыву, не вядуць яму вучоту, ня цікавяцца дзейнасьцю кожнага з гэтых актывістых, не дапамагаюць іх палітычнаму разьвіцьцю і тым самым не накіроўваюць іх актыўнасьць у жаданым нам напрамку. Гэтае апошняе пытаньне неабходна тэрмінова вырашыць.

Зьмест і якасьць партыйнае вучобы ў вясковых палітшколах характарызуецца: ліквідаваньнем, у асноўным, палітычнай няпісьменнасьці, прывучэньнем больш-менш самастойна вучыцца і некаторым аформленьнем сыстэматызацыяй тых ведаў, якія партыйцы набылі на практыцы ў галіне грамадзкай працы ў вёсцы. Ува ўсіх перасоўках уведзена папярэдняя прапрацоўка тэм у групах слухачамі па заданьням і пад наглядам кіраўнікоў. У агульным і гутаркі вядуцца здавальняюча, як з боку актыўнасьці і ўцямленасьці слухачоў, так і з боку тэорытычнай і фактычнай вытрыманасьці тлумачэньняў кіраўнікоў. Недастатковая-ж сувязь у гутарках програмных пытаньняў з мясцовым жыцьцём і дзейнасьцю застаецца адным з недахопаў у зьмесьце працы гэтых школ.

Да недахопаў у працы вясковых палітшкол належыць аднесьці яшчэ слабую пастаноўку практычнай грамадзкай працы ў большасьці перасовак, а ў некаторай частцы і поўную адсутнасьць яе. І апошнія недахопы, якія заўважваюцца і да апошняга часу, гэта мэтодычныя. Адсутнічаюць больш-менш точныя заданьні слухачом для папярэдняй прапрацоўкі тэм. У час гутаркі ня зусім ясна ставяцца пытаньні і слаба ўвязваюцца, як асобныя пытаньні данай гутаркі, так і ўся гутарка з пройдзейнай. Цікава, што ўсе гэтыя недахопы ўсе кіраўнікі, якіх прышлося наведаць, самі вельмі добра ведаюць і робяць іх толькі таму, што самі не заўсёды падрыхтоўваюцца да заняткаў. Гэта, так сказаць, рэцыдыў самаўпэўненасьці.

Каб мець некаторае ўяўленьне і аб добрых баках вясковых школ палітграматы, неабходна ў кароткіх словах застанавіцца на працы, так званай, перасоўкі другой ступені ў Глускім раёне. Гэта школа складзена з вясковага партактыву. Тут сакратары сельячэек, старшыні і сакратары сельсаветаў і загадчыкі хат-чытален. Склад слухачоў гэтае школы апрадзяліў і ўсю яе працу. Вельмі інтэнсыўна прапрацоўваецца програма мэтодам гутаркі з папярэдняй самастойнай прапрацоўкай. Вечарамі праводзіца колектыўная чытка газэт і ўпаўне здавальняюча разгорнута грамадзкая практычная праца. 23 партыйцы гэтае школы разам з сваім кіраўніком жывуць як-бы маленькай комунай у адным інтэрнаце і ўсе разам харчуюцца, што вельмі добра адбіваецца на іх партыйным выхаваньні. Усякія паступкі заўважаныя за асобнымі партыйцамі, якія супярэчаць партыйнай этыцы, у вольны ад

заняткаў час едка высьмейваюцца і выпраўляюцца як у славесных дыспутах, так і ў насьценай газэце, якіх ужо было выпушчана 2 нумары. На пастаўленае ў прыватнай гутарцы ім пытаньне аб тым, што дала ім школа-перасоўка, яны ў агульным выказалі прыведзеную вышэй ацэнку зьместу і якасьці працы вясковых палітшкол і ўрэшце дабавілі, што мы тут зразумелі, што раней мы нічога ня ведалі і мала яшчэ ведаем цяпер. Працавалі-ж мы наўгад і шмат глупстваў нагаварывалі другім. Гэта ўсьведамленьне, гэтыя крытычныя адносіны да самога сябе ўжо гавораць аб тым, што школа дасягнула свае мэты.

Добра, таксама, працавала і Глуская стацыянарка, асабліва вышэйшая група, якая займалася па програме нармальнае школы. У гэтай групе займаліся раённыя партыйныя актывістыя. Іх актыўнасьць і глыбіня прапрацоўкі тэм, заўважаныя на іх занятках, сьведчаць аб тым, што тэорытычны ўзровень гэтага райактыву хутка ідзе ў гору і што стварэньне вышэйшых груп у школах-стацыянарках садзейнічае гэтаму росту і дзеля гэтага зьяўляецца аднэй з лепшых форм партыйнае вучобы.

У заключэньне высьветлім яшчэ адно пытаньне аб тым, хто-ж непасрэдна вядзе гэтую працу. Які склад тых працаўнікоў, якім арганізацыя даручыла такую працу, як ленінскае выхаваньне сваіх шэрагаў, і як забясьпечана арганізацыя гэтай катэгорыяй працаўнікоў на далейшае.

Кадр пропагандыстых, працаваўшых на гэтай працы ў сёлетнім годзе ў Бабруйскай акрузе складзен з 74 чалавек. Па партстажу, адукацыі і па вопыту партыйна-пэдагогічнай працы яны выглядаюць так:

| | | ПА ПАРТ. СТАЖУ. | | | | | | ПА АДУКАЦЫІ | | | | | | | Па вопыту пропаганд. працы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | Агульнай | | | Палітычнай | | | | | | |
| | Усяго пропагандыстых | Да 1917 году. | 1917-18 г. | 1919-20 г. | 1921-23 г. | 1924 і пазьн. | Кандыдаты | З вышэйш. | З сярэдн. | З ніжэйш. | Скончылі Камвуз | Губ. СПШ | Павят. СПШ | Самаадукац. | Да 1 году | Ае 1-2-х г. | Ад 2 і больш гадоў |
| У горадзе. | 48 | 2 | 5 | 7 | 13 | 13 | 7 | 2 | 22 | 24 | 2 | 3 | 12 | 29 | 20 | 9 | 19 |
| У вёсцы . | 26 | — | 4 | 9 | 8 | 4 | 1 | — | 12 | 14 | 2 | 4 | 3 | 17 | 18 | 6 | 2 |
| РАЗАМ. | 74 | 2 | 9 | 16 | 21 | 17 | 8 | 2 | 34 | 38 | 4 | 7 | 15 | 46 | 38 | 15 | 21 |

Цяжка даць характарыстыку ўсяму гэтаму, досыць стракатаму складу пропагандыстых, ня ведаючы, хто з іх мае ўсе якасьці, хто адну, а хто можа быць і ніводнае. Тут можна даць характарыстыку толькі асобным групам. Так, па партыйнасьці—17 партыйцаў яшчэ вельмі маладых і нават 8 кандыдатаў прадстаўляюцца ненадзейнымі, а калі яны яшчэ ня маюць адпаведнай агульнай і палітычнай адукацыі і пропагандысцкага вопыту, то нікуды ня вартымі. Далей: 46 таварышоў набылі неабходныя палітычныя веды самаадукацыяй, веды, якія (асабліва, калі гэта маладыя партыйцы) часта недастатковы для пропагандысцкай працы. І ўрэшце, 38 таварышоў сталі на пропагандыцкую працу, як відна, толькі ў гэтым годзе. Адгэтуль відаць,

што значная частка пропагандыстых слабая і ў далейшым зможа праводзіць гэтую працу пры ўмовах сталай перападрыхтоўкі на каротка-тэрміновых курсах альбо самастойнай працай над сабою ў летні кругабег часу і добрага мэтодычнага кіраўніцтва пад час вучэбнай працы. Але пакольki ўвесь гэты кадр складаецца з 74 чалавек, можна без асаблівай памылкі сказаць, што чалавек 40 з усяго гэтага складу ёсьць такіх, у якіх будзе здавальняюча і партыйнасьць, і адукацыя і пропагандыцкі вопыт. І дзеля гэтага можна лічыць, што Бабруйская організацыя больш-менш здавальняюча забясьпечана пропагандыстымі і на наступны год.

Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці і недахопы, якія, будзем спадзявацца, будуць выпраўлены ў далейшай працы, нашы нататкі мы ўсё-ж можам закончыць адказам на пытаньне: „Як вучыцца організацыя і якая якасьць гэтае вучобы“—упаўне здавальняючая.

---

Лур'е і Драгінаў

# Чым мы скончылі навучальны год

(*Па падрахункавым матэрыялам працы штатных школ-перасовак у 1926-27 навучальным годзе па Віцебскай акрузе*)

Вопыт мінулага году, цалком апраўдаўшы школы перасоўкі, як найлепшую форму ў сыстэме партасьветы прад'яўляе да партыйных арганізацый патрабаваньне, каб вопыт гэтага году быў значна большым, чым у мінулым годзе. Навучальны год скончыўся і мы лічым упаўне сваечасовым падрахункаваць гадавую працу школ перасовак у аднэй з найбольш буйных акруг Беларусі—Віцебскай.

## Умовы працы

У процілегласьць мінуламу навучальнаму году, калі ўвага райкомаў да працы школ-перасовак была далёка недастатнай, цяперашні 1926-27 г. навучальны год паказальны праяўленьнем больш увагі з боку большасьці райкомаў да школ, якая выказалася ў утварэньні здавальняючых для працы школ умоў у час арганізацыі перасовак і ў дапамозе ім у час іх штодзёнай працы (Сіроцінскі і Сененскі райкомы ў асаблівасьці). Аднак на нядаўна адбыўшайся Акруговай нарадзе кіраўнікоў перасовак былі скаргі і на адсутнічаньне дастатна ўважлівых адносін да школ з боку некаторых райкомаў (Высачанскі і Езярышчанскі райкомы).

З боку-ж АПА Акружкому, кіраўніцтва школамі ў гэтым годзе ажыцьцяўлялася ў дастатным стопні ў форме інструктыўных выездаў на месца працы школ працаўнікоў АПА, лічнай і службовай перапіскі кіраўнікоў школ з працаўнікамі АПА і ў рэшце скліканьнем 2-х акруговых нарад кіраўнікоў.

У матэрыяльных адносінах школы (без нацыянальных) былі забясьпечаны добра. Кожная школа мела 450—500 рублёў на організацыю кармленьня слухачоў, аплату выкладчыкаў агульна-адукацыйных прадметаў, набываньне вучэбных прылад і інш. учэбна-гаспадарчыя расходы. Школы мелі больш-менш прыстасаваныя для заняткаў памяшканьні, кватэры для слухачоў, пры чым стопень забясьпечанасьці апошніх залежыла ад уважлівасьці райкомаў да школ. На недахоп сродкаў на вучэбна-гаспадарчыя патрэбы скардзяцца нацыянальныя школы.

Падручнікамі Беларускія школы задаволены, *але-ж прысланы яны былі пазнавата* і гэта ў многім адбілася на сваечасовасьці пачатку навучальнага году ў школах, *у зьвязку з гэтым мы мелі замест 3-х выпускаў штатных школ толькі 2.* Нацыянальныя-ж школы падручнікамі на нацмовах былі забясьпечаны недастатна.

У якасьці моманту дзейнічаўшага ў напрамку зьніжэньня пасьпешнасьці працы школ патрэбна адзначыць і тыя кампаніі, якія праводзіліся зімою (перавыбары с/саветаў, камітэтаў узаемадапогі і інш.).

Такім чынам за невялікім выключэньнем агульныя ўмовы не перашкаджалі працы школ.

## Склад школ і іх комплектаваньне

У нашай акрузе за 1926-27 вучебный год працавалі 6 беларускіх, 1 латыская і 1 яўрэйская школы-перасоўкі. За навучальны год школамі былі зроблены па 2 выпускі кожнай.

Колькасьць і склад слухачоў школ малююцца наступнымі цыфрамі:

Першы выпуск:

| | Агульная колькасьць | Стан. | | Партсклад | | | Партстаж | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | муж. | жанч. | КПБ | КСМ | Бесп. | 17—20 | 21—25 | 26 г. | канд. |
| Да пачатку заняткаў | 187 | 154 | 33 | 68 | 96 | 23 | 8 | 6 | 9 | 45 |
| Убыло | 28 | 22 | 6 | 15 | 9 | 4 | 1 | 1 | 3 | 10 |
| Скончыла | 159 | 132 | 27 | 53 | 87 | 19 | 7 | 5 | 6 | 35 |

| | Социяльны склад | | | | Нацыянальны склад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Раб. | Сялян | Батр. | Служ. | Бел. | Яўр. | Паляк. | Рас. | Лат. | Літ. |
| Да пачатку заняткаў | 19 | 128 | 8 | 32 | 147 | 21 | 5 | 7 | 6 | 1 |
| Убыло | 5 | 18 | — | 5 | 23 | 2 | 1 | 2 | — | — |
| Скончыла | 14 | 110 | 8 | 27 | 124 | 19 | 4 | 5 | 6 | 1 |

Другі выпуск:

| | Агульн. колькасьць | Стан. | | Партсклад | | | Партстаж | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | муж. | жанч. | КПБ | КСМ | Бесп. | 17—20 | 21—25 | 26 г | Канд. |
| Да пачатку заняткаў | 269 | 220 | 43 | 100 | 127 | 36 | 15 | 10 | 14 | 61 |
| Убыло | 44 | 36 | 8 | 17 | 19 | 8 | 4 | — | — | 13 |
| Скончыла | 219 | 184 | 35 | 83 | 108 | 28 | 11 | 10 | 14 | 48 |

| | Социяльны склад | | | | Нацыянальны склад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. | Сялян | Батр. | Служ. | Бел. | Яўр. | Паляк. | Рас. | Лат. | Літ. |
| Да пачатку заняткаў | 8 | 155 | 7 | 93 | 221 | 25 | 1 | 6 | 7 | 3 |
| Убыло | 1 | 22 | 1 | 20 | 33 | 10 | — | 1 | — | — |
| Скончыла | 7 | 133 | 6 | 73 | 188 | 15 | 1 | 5 | 7 | 3 |

Усяго за год у беларускіх школах:

| | Агульн. колькасьць | Стан | | Партсклад | | | Социяльны склад | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | мужч. | жанч. | КПБ | КСМ | Бесп. | Рабоч. | Сялян. | Батр. | Служ. |
| Да пачатку заняткаў | 450 | 374 | 76 | 168 | 223 | 59 | 27 | 283 | 15 | 125 |
| Убыло | 72 | 58 | 14 | 32 | 28 | 12 | 6 | 40 | 1 | 25 |
| Скончыла | 378 | 316 | 62 | 136 | 195 | 47 | 21 | 243 | 14 | 100 |
| Процант | — | 83,7% | 16,3% | 35,9 | 51,7 | 12,4 | 5,5% | 64,2% | 3,8% | 26,5% |

| | Партстаж | | | | Нацыянальны склад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 17—20 года | 21—25 года | 26 г. | Канд. | Бел. | Яўр. | Паляк. | Рас. | Лат. | Літ. |
| Да пачатку заняткаў | 23 | 16 | 23 | 106 | 368 | 46 | 6 | 13 | 13 | 4 |
| Убыло | 5 | 1 | 3 | 23 | 56 | 12 | 1 | 3 | — | — |
| Скончыла | 18 | 15 | 20 | 83 | 312 | 34 | 5 | 10 | 13 | 4 |
| Процант | — | — | — | 61% | 83% | — | — | — | — | — |

Усяго за год у нацыянальных школах:

| Агульн. коль-касьць | Стан | | Партсклад | | | Соцыяльны склад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жанч. | КПБ | КСМ | Бесп. | Рабоч. | Сялян | Самат. | Батр. | Служ. | Інш. |
| 77 | 45 | 32 | 7 | 32 | 38 | 12 | 37 | 8 | 3 | 8 | 9 |

З агульнай колькасьці абхопленых беларускімі школамі 378 чал. —жанчын усяго 16 проц. Калі прыняць пад увагу, што большасьць з іх гэта не сялянкі, занятыя ў сельскай гаспадарцы, а вясковыя альбо местачковыя комсамолкі, нядаўна вышаўшыя з школ 7-годак, то *процант сялянак прадстаўляецца надта малым.*

Большасьць скончыўшых школы—комсамольцы, яны складаюць 52 проц. усіх скончыўшых, а сярод партыйцаў, якія даюць 36 проц. усіх скончыўшых—61 проц. кандыдатаў у сябры КПБ. Такая колькасьць кандыдатаў у школах зьявішча нормальнае, так як мэтай школ перасовак зьяўляецца зьнішчэньне палітняпісьменнасьці і сваёй працай яны, ногды, і павінны абхапіць у большасьці кандыдатаў.

З ліку скончыўшых школы беспартыйных таварышоў 12 проц. Памятаючы аб тым, што значная частка гэтых беспартыйных нале-

жыць да служачых мы прыходзім да выніку, што *з абхопам у школы беспартыйнага сялянскага актыву справа абстаіць нездавальняюча.* За-то з агульнай колькасьці слухачоў сяляне складаюць большасьць—64 проц. Аднак усё-ж досыць значная і частка служачых—26 проц. усіх скончыўшых. Зусім дабрабытна абстаіць справа з нацыянальным складам—*83 проц. усіх скончыўшых беларусы.*

Агульны процант адсеву раўняецца 16 проц. Значны процант адсеву падае на партыйную частку слухачоў, што тлумачыцца шэрагам прычыны. Галоўныя з іх—большасьць партыйцаў выконваюць тую, альбо іншую выбарчую працу і вялікая партыйная і грамадзкая нагрузка такіх таварышоў не дае ім магчымасьці наведваць школу на ўсім працягу яе працы, частыя камандыроўкі для правядзеньня розных кампаній, ня зусім лёгкія хатнія ўмовы перашкаджаюць аддаць 2-3 месяцы на вучобу. Але сярод шэрагу об'ектыўных прычын назіралася і простае нежаданьне наведваць заняткі.

Недахопам камплектаваньня яўлялася неаднастайнасьць складу. У аднэй і той-жа групе пападаліся сарака-гадовыя сяляне і васемнаццаці-гадовыя комсамольцы; малады хлопец толькі што скончыўшы 7-годку і барадаты, недахопна пісьменны селянін, людзі розных соцыяльных груп—селянін, служачы, саматужнік, а значыцца і з рознымі запытаньнямі. Патрэбна адзначыць, яшчэ і тое, што ў шэрагу з павялічэньнем уцягненьня ў школы раённага актыву, *значная частка ячэйковага актыву некаторых раёнаў* (напрыклад, Сураскага) *застаецца не ўцягнутым у школы.* Вось у чым выразіліся дадатныя і адмоўныя бакі камплектаваньня.

Віцебскай акрузе і другім акругам, дзе школы перасоўкі працуюць ужо 3-ці год, прыдзецца на будучы год скараціўшы колькасьць школ перасовак, зьвярнуць максімум увагі на працу стацыянарак. Нам здаецца, што на будучыя гады цэнтрам працы па партасьвеце *ў такіх акругах* павінны стаць стацыянаркі, абслугоўваючыя, галоўным чынам, актыў і самаадукацыйная праца сярод скончыўшых школы перасоўкі (гэта значыць, што мы аб'яўляем непатрэбнай сыстэму школ перасовак), так як размах працы і абхоп школ перасовак на многа апярэдзіў рост партыйных організацый на вёсцы і многія вясковыя партыйцы прайшлі *ўжо два разы школу перасоўку.* Зразумела, што для стацыянарак і самаадукацыйнай працы трэба даць па кваліфікаванаму прапагандысту на раён, што будзе каштаваць не намнога больш чым нашыя перасоўкі.

## Організацыя працы школ

Усе школы, якія налічвалі больш 30 чалавек падзяляліся на дзьве групы кожная, галоўным чынам па прынцыпу падрыхтаванасьці. Сіроцінская-ж і Лёзьненская школы былі падзелены на групы па тэрыторыяльнаму прынцыпу: у адну групу ўключаліся таварышы працуючыя ў раёным цэнтры, а ў другую працуючыя ў сваёй сельскай гаспадарцы, пры чым удавалася, усё-ж, у некаторым стопню захоўваць і прынцып падрыхтаванасьці. Падобныя падзяленьні школ на групы былі праведзены толькі ў другім выпуску з той мэтай, каб шляхам больш хуткага прахаджэньня праграм, забясьпечыць вясковым таварышом зварот дамоў да пачатку веснавое працы.

Заняткі ў школах праводзіліся па 5--6 дзён у тыдзень, у некаторых 4-5, а ў другіх 6-7 учэбных гадзін у дзень часьцей ад усяго ў дзень і ўвечары. Вучэбны дзень разьмяркоўваўся наступным чынам (прыклад Сіроцінская школа): ад 12 да 2-х клясныя заняткі, ад 2-х да 3-х газэтная гадзіна, ад 3-х да 4-х белмова альбо прыродазнаў-

ства, ад 4-х да 6-ці гадзін абедзены перапынак і ад 6-ці да 9-ці гадзін прапрацоўка кніжнага матар'ялу. Час да 12-ці гадзін слухачамі скарыстоўваўся для выкананьня практычных заданьняў. Некаторыя школы практыкавалі спэцыяльны шосты дзень для грамадзка-практычнай працы. У частцы школ (Лёзна, Межа, Сіроціна) адны групы працавалі ўдзень, другія ўвечары. Час заняткаў у школах хістаецца між паўтара і трыма месяцамі.

Вялікае значэньне ў гэтым годзе было прыдадзена школьнаму самакіраўніцтву. Ва ўсіх школах былі організованы школьныя рады, пад старшынством загадчыка школы. У школьную раду, якая займалася распрацоўкай пытаньняў як організацыйна-гаспадарчых, так і вучэбна-мэтодычных, уваходзілі прадстаўнікі мясцовых парт. і комсамольскіх арганізацый, выкладчыкі агульна-адукацыйных прадметаў і старасты груп. Даведваньне школ было тым вышэй, чым лепш працавалі школьныя рады.

## Зьмест працы школ

Па акрузе працавалі дзьве школы другой ступені і шэсьць школ першая ступені з каторых дзьве нацыянальных. У другую ступень уключаліся таварышы скончыўшыя перасоўку першай ступені ў мінулым годзе і частка раённага актыву. Але-ж у адным раёне ня ўдавалася ўкомплектаваць школу поўнасьцю таварышамі прыгоднымі для другой ступені і прыходзілася ўтвараць павышаную і зьніжаную групы.

Павышаныя групы працавалі па праграме гарадзкіх нормальных школ політграматы, а зьніжаныя па праграме вясковых школ стацыянарак. Школы першай ступені з нацыянальнымі працавалі па праграме вясковых школ перасовак.

Іншыя акругі, дзе таксама працавалі школы 2-й ступені, напэўна карысталіся якімі небудзь іншымі праграмамі раз агульна-ўстаноўленай праграмы для перасовак другой ступені няма. Такая мясцовая „праграмная творчасьць“ відавочна недапамагала паляпшэньню працы і аднастайнасьці сыстэмы, апроч таго, праграмы гарадзкіх нармальных школ, пры ўсёй вумеласьці і кваліфікаванасьці прапагандыстага, не маглі быць цалкам прыстасаваны да патрэб вясковага слухача. Да ўсяго гэтага ў праграмах і павышанай і зьніжанай груп другой ступені зусім адсутнічае беларускі матар'ял, што ўжо зусім кепска.

Дадатным бокам праграмы першай ступені, цалкам сябе апрадаўшай—вытворанае скарачэньне колькасьці гутарак у параўнаньні з праграмай мінулага году, да 16-ці гутарак, так як для слухачоў першай ступені, як для людзей ня высокага разьвіцьця, уцямленьні вялікага матар'ялу проста немагчыма. Перашкаджала працы павышаных груп школ другой ступені, тое, што ў іх праграмах адсутнічаў матар'ял па прапрацоўцы пастаноў 15-й партконфэрэнцыі.

Адпавядаючы кожнай праграме падручнік яўляецца бязумоўным дасягненьнем гэтага году ў процілегласьць мінуламу году, калі школы працавалі па Яраслаўскаму, Станчынскаму, Пратасаву і па іншым падручнікам.

Павышаныя групы другой ступені карысталіся вучэбнікам Грышына „па Ленінскаму шляху“, зьніжаныя групы другой ступені „Політграматай“ Абезгаўза і Пратасава. Школы першай ступені карысталіся „політграматай“ Тайшына і Казлова. Нацыянальныя школы працавалі па падручнікам на нацмовах і ў значным стопню карысталіся Абезгаўз-Пратасавым і Тайшын-Казловым.

Па водзывам кіраўнікоў школы аб падручніках, апошнія ў гэтым годзе асноўным адказываюць патрабаваньням ім прад'яўляемым, як з боку мэтадычнага, так і зьместу. Усё-ж і ў іх маюцца некаторыя недахопы. Пару прыкладаў. Неаднастайнасьць гутарак па колькасьці старонак—сустракаюцца гутаркі з 17-ці старонкамі і з 33 старонкамі (Падгорны і Нікуліхін). Некаторая неахайнасьць з формуліроўкамі—сустракаецца вызначэньне нашае дзяржавы як рабоча-сялянскай, пры чым з контэксту выцякае, што прамова йдзе аб сутнасьці яе (Абезгаўз і Пратасаў стронка 32). У тым-жа вучэбніку памешчана дыяграма падзяляючая сялянства на 4-ры групы і па каторай у нашай краіне ўсяго 1 проц. кулакоў. У Грышына зьмест яскравых для слухача, точных палажэньняў, сустракаюцца агульныя не канкрэтныя мейсцы, што значна перашкаджае ўцямленьню для слухачоў. Надта не яскрава—напрыклад, тлумачыцца пытаньне аб сутнасьці лёзунгу рабочага і рабоча-сялянскага ўрадаў. Ува ўсіх вучэбніках занадта многа месца адводзіцца цыфроваму матар'ялу і дыяграмам, пры тым не заўсёды ў дастатна зразумелым для слухача відзе. *Матар'ял аб эканоміцы і гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі,* які павінен быў-бы заняць адзін з паважных аддзелаў вучэбніка, у апошніх *адсутнічае* (за выключэньнем Тайшына і Казлова) і нават у перакладзеным на белмову вучэбніку Падгорнага і Нікуліхіна.

Ня гледзячы на тое, што пытаньні 15-й партканфэрэнцыі зьвязваліся з агульна-праграмнымі пытаньнямі, амаль што па ўсім школам яны прапрацоўваліся і асобнымі тэмамі так-жа, як і некаторыя пастановы апошніх пленумаў ЦК ВКП і КПБ. Некаторыя школы дапаўнялі яшчэ праграмы сваіх заняткаў гутаркамі на тэмы: „Як чытаць кнігу і газэту“, „Як займацца ў гуртку самаадукацыі“ і г. д. Дадатковы матар'ял цяжкасьці ў прарацоўку праграм ня ўнасіў, наадварот, удачнае прымяненьні яго запаўняла некаторыя прабелы праграм. Іншых-жа праграмных зьмяненьняў у школах неназіралася.

З агульна адукацыйных прадметаў ува ўсіх школах выкладаліся беларуская мова і прыродазнаўства. Гэтым прадметам школамі не паўсёды ўдзялялася аднолькавая колькасьць вучэбных гадзін. У большасьці школ выкладчыкі белмовы аказаліся дастатна кваліфікаванымі, каб змагчы прышчапіць слухачам—як то сьведчаць кіраўнікі школ, некаторыя навыкі чытаньня і пісаньня на белмове, даць ім некаторыя веды з граматыкі яе. Значна горш было пастаўлена ў школах выкладаньне прыродазнаўства. Выкладчыкі гэтага прадмету, у большасьці, не ўладалі дастатнай кваліфікаванасьцю, каб змагчы зацікавіць слухачоў. Няўдачная пастаноўка прыродазнаўства ў школах у значным стопню тлумачыцца і адсутнічаньнем падручнікаў па прыродазнаўству, прыгодных для школ перасовак. Некаторыя школы практыкавалі выкладаньне і агранаміі, але адсутнічаньне праграмнага адзінства па гэтаму прадмету, бо праграмы ўтварыліся на мясцох—не магло не адбіцца на пасьпешнасьці правядзеньня прадмету.

Працы з газэтай удзялялі ўвагу большасьць школ. Мэтадычна, гэтая праца была організована добра ў школах другой ступені. Групы ў апошніх падзяляліся на сэкцыі, кожнай з каторых даручалася да прапрацоўкі якое небудзь пытаньне з міжнароднага, альбо ўнутранага становішча СССР. Пэрыодычна на агульных сходах групы дакладчыкі сэкцый паведамлялі, „што новага“ ў галіне пытаньняў, дручаных ім да перапрацоўкі і ў рамках гэтых паведамленьняў, пасьля дакладаў вяліся агульныя спрэчкі, якія канчаліся заключным словам кіраўніка школы.

Такая праца з газэтай у школе, плюс гутаркі „як чытаць газэту“, прывіла слухачам некаторыя навыкі і прызвычаенасьць да неабходнасьці чытаньня газэт.

Грамадзка-практычная праца школ, фактычна разгорнутая толькі ў гэтым годзе, атрымала даволі заметны размах у палове школ. Формы практычнай працы ў розных школах прымяняліся розныя. Вось некоторыя з іх.

Удзел слухачоў у кампаніях, якія праводзіліся ячэйкамі. Школы пытаньня кампаній у сябе папярэдадні распрацоўвалі і потым выдзелялі больш моцных слухачоў у якасьці дакладчыкаў. Праводзіліся слухачамі вечары пытаньняў і адказаў для насельніцтва, калектыўныя чыткі газэт для сялян. Навыкі практычнае працы прывіваліся і шляхам абсьледавацельскай працы. Школа выдзяляла групы слухачоў для абгляду грамадзкіх арганізацый. Матар'ял гэтых абглядаў у многіх мясцох дапамог палепшыць працу абгледжаных організацый. Былі спробы і даволі ўдачныя да вучоту настрояў сялян шляхам гутарак слухачоў з імі па пытаньням, таксама папярэдадні распрацованым у школе. Праводзіліся вечары самадзейнасьці, палітсуды, выпускаліся насьценныя,вусныя і сьветавыя газэты сіламі слухачоў. Некаторыя школы прымацавалі сваіх слухачоў да сэкцыі сельсаветаў і інш. арганізацый для працы ў іх. Аднак, працы яны там ніякай не праводзілі з-за кволай працы самых гэтых організацый.

Найбольш удачна праводзілася абглядчая праца і ўдзел у кампаніях. Абглядчая праца ня толькі знаёміла слухачоў з працай абглядаемых арганізацый, але і збагачала іх вопыт вуменьнем працаваць.

Бязумоўна, што зьмест працы школ гэтага году ўва ўсіх адносінах больш багаты і многастайней мінулага году. Гэта многастайнасьць высоўвае перад АПА ЦК задачу, як можна скарэйша падвясьці пад рахунак вопыту ў гэтай частцы па ўсёй Беларусі, з тым, каб да будучага вучэбнага году гэтай працы прыдаць адзіную форму.

## Мэтодыка

Асноўным мэтадам клясных заняткаў ува ўсіх школах яўлялася разгорнутая гутарка з 15-ці хвілінным увядзеньнем і такім-жа заключэньнем пасьля гутаркі і падрахункаваньнем спрэчак па стрыжнявым пытаньням тэмы. Да гэтага некаторыя школы практыкавалі яшчэ экспромтныя даклады слухачоў (без папярэдадняй падрыхтоўкі спэцыяльна да дакладу).

Калі ў клясных занятках мы мелі амаль-што адзінства мэтаду, то гэтага ня было ў прапрацоўцы кніжнага матар'ялу, тут назіралася некаторая пярэстасьць. У аднэй частцы школ слухачы прапрацоўвалі матар'ял індывідуальна і канспэктыравалі прачытанае (Сіроціна), у другой частцы матар'ял прапрацоўваўся колектыўна па падгрупам, пры чым вяліся спрэчкі па прачытаным, якія пратакаліраваліся (Лёзна, Высачаны).

У тых школах, дзе да разгорнутай гутаркі, меўся і кваліфікаваны прапагандысты, заняткі прахадзілі надта ажыўлена, што бязумоўна пацьвярджае дадатнасьць гэтага мэтаду.

Прапрацоўка матар'ялу з канспэктыраваньнем дало дадатныя вынікі толькі ў школах другой ступені, у школах-жа першай ступені найбольш прывівалася колектыўная прапрацоўка.

Гутаркі аб бягучай палітыцы партыі на вёсцы зьвязваліся з мясцовай сапраўднасьцю праз скарыстаньне мясцовага, цыфровага і дыяграмнага матар'ялу, пастаноўкі дакладаў кіраўнікоў мясцовых устаноў, прымяніцельна да тэмы, скарыстаньне матар'ялаў абглядаў, якія пра-

вадзіліся слухачамі і экскурсіяй у саўхозы, на фабрыкі і іншыя мясцовыя прадпрыемствы.

У якасьці навочных падручнікаў пры прапрацоўцы тэм скарыстоўваліся—атлас дыяграм галоўпалітасьветы, дыяграмы і схэмы памешчаныя ў падручніках, географічныя карты, дыяграмы і схэмы, якія складаліся самымі слухачамі, розныя графікі і схэмы пры дапамозе дошкі і крэйды.

Пісьмовыя працы праводзіліся ўсімі школамі і разьбіраліся на клясных занятках. Калегія Сененскага АПА Райкому партыі адзначае, „што пісьмовыя працы зьявіліся лепшым мэтадам прывучэньня слухачоў выкладаць свае думкі на паперы“. Пісьмовыя працы ў большасьці правадзіліся ў якасьці падрахункавых да грунтоўных разьдзелаў праграмы. У некаторых школах невялікія пісьмовыя працы выконваліся амаль-што па кожнай тэме, пры чым тут больш-менш захоўвалася паступовасьць ад менш да больш складаных.

## Вынікі працы школ

Даведваньне школ хісталася між 95% і 80% і ў сярэднім выразілася ў 85%. Недаведваньне заняткаў галоўным чынам назіралася з боку групы партыйцаў, якія былі занадта нагружаны партыйнай і грамадзкай працай.

Уцямленьне праграм характэрызуецца наступнай табліцай (цыфры другога выпуску):

| | Агульная колькасьць | Стан | | Партсклад | | | Сацыяльны склад | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Мужч. | Жанч. | КПБ | КСМ | Бесп. | Рабоч | Сялян | Батр. | Служ. |
| Добра | 60 | 46 | 14 | 29 | 26 | 5 | 2 | 26 | 3 | 29 |
| Процант | 27% | — | 40% | 35% | 24% | 18% | 29% | 20% | 50% | 40% |
| Здавальняюча | 118 | 100 | 18 | 50 | 50 | 18 | 4 | 78 | 3 | 33 |
| Процант | 54% | — | 51% | 60% | 46% | 64% | 57% | 60% | 50% | 45% |
| Слаба | 41 | 38 | 3 | 4 | 32 | 5 | 1 | 29 | — | 11 |
| Процант | 19% | — | 9% | 5% | 30% | 18% | 14% | 20% | — | 15% |
| Усяго | 219 | 184 | 35 | 83 | 108 | 28 | 7 | 133 | 6 | 79 |

Такім чынам уцямленьне прадстаўляецца нам упаўне нармальным, так як усяго 19% скончылі слаба.

Лепшае ўцямленьне падае на долю партыйцаў—толькі 5% іх скончылі слаба, найгоршую-жа пасьпяваемасьць даюць комсамольцы —30% іх скончылі слаба. Лепш ад усяго пасьпявалі служачыя (пасьля батракоў), што зусім ня зьдзівіцельна, так як большасьць з іх мае агульную адукацыю.

Прыведзеныя даныя гавораць аб бязумоўных дасягненьнях навучальнага году, які мы цяпер скончылі. Перад партыйнай арганізацыяй стаяць задачы вучоту і падрыхтоўкі ўжо да наступнага навучальнага году, асабліва ў адносінах падручнікаў.

Не ўдаваючыся ў ацэнку прапагандыстаў-перасоўшчыкаў мы лічым, што АПА ЦК павінен ужо цяпер заняцца пытаньнямі перападрыхтоўкі і па нашай думцы арганізацыя ўсебеларускіх курсаў не патрэбна, бо яны, часта, значна больш каштуюць чым даюць, а найбольш мэтазгодным будзе прадстаўленьне прапагандыстым некаторых тэрмінаў (месяц, паўтары) за летні пэрыод для самаперападрыхтоўкі.

**А. Н.**

# Дробнае пытаньне з вялікім значэньнем

Нашай партыяй правідлова і сваечасова вырашана нацыянальнае пытаньне. І, як адзін з сродкаў канкрэтнага яго вырашэньня, зьяўляецца рашучае правядзеньне беларусізацыі партыйнага, савецкага і коопэрацыйнага апарату, каб тым самым прыблізіць яго да асноўнай масы насельніцтва—беларусаў. Бязумоўна, што за апошнія 2 гады мы ў гэтай справе зрабілі вялікія посьпехі. Большасьць устаноў ужо пераведзена на бел. мову. Значыць, мы гэту працу разгарнулі, як кажуць, у шыр. Але, калі мы падыдзем да якасьці праведзенай беларусізацыі, дык тут, як пабачым, шмат ненармальнасьцяй. Наш апарат да гэтай справы падышоў фармальна. Людзі думаюць па расійску, мэханічна гэта перакладаюць на бел. мову, карыстаючыся не заўсёды ўдалымі слоўнікамі. І замест папулярнай, зразумелай для сялянства мовы, выходзіць некая надуманая канцэлярская мова, якой нават нашы „спэцы ад беларусазнаўства“ не заўсёды зразумеюць. Прыводжу канкрэтныя прыклады. Адна ўстанова просіць другую паведаміць якое ўтрыманьне (содержание) атрымліваюць супрацоўнікі гэтай установы і мэханічна перакладаюць слова „содержание“ і паперка пішацца прыблізна так: „просім паведаміць „*зьмест*“ (А Н.) вашых супрацоўнікаў“. Як вядома „зьмест“ бывае кніжкі, газэты, нарэшце, бочкі, ну, а зьмест супрацоўнікаў... У залежнасьці ад таго, што яны сьнедалі. „Зьмест“-жа канцэлярыі, якая гэта пісала, відаць хаця-б па гэтай паперцы. Прыклад нумар два. Пашла мода нават ў прыватных гандляроў, пісаць шыльды (вывескі) на бел. мове і вось у Віцебску мы чытаем „Емінны лаўка“. Што такое „емінны“ няхай адгадаюць чытачы, а селяніну-беларусу, такой беларусізацыі не зразумець.

Прыклад трэці. Адчыняем любую пачку пратаколаў, ну, хаця-бы нашых РК. Чытаем: „Арганізацыя краязнаўчага музейчыка даволі добрага па *разнообразыю* (канчатак „ыю“ для беларускасьці А. Н.) экспонатоў *характерызуюшчага* наш раён“. Я ня буду прыводзіць болей прыкладаў. Варта параглядзіць любую справу ўстановы, як пабачыш сотні такіх „экспонатаў“. Нарэшце бяром № 4 „Бальшавік Беларусі“. Ст. 31 чытаем значна *павысіўшаяся* палітычная актыўнасьць сялянства, пры бязумоўна *ўзрастаючай* кіруючай ролі беднаты ў гэтым росьце патрабуе ад нас перш за ўсё *змагчы* (А. Н.) *правільна* выкарыстаць гэтую *растучую* (А. Н.) актыўнасьць“. Крыху ніжэй „Узрасла ўдзельная *вага* беднаты ў складзе с. с.“. Наступны абзац „Прадпасылкі для працы бязумоўна палепшыліся. Наша задача *вучэсьць* вопыт усёй мінулай працы саветаў“. Гэта ў часопісі ЦК, якая павінна кіраваць усёю працай. Застаецца, бяз лішніх комэнтарыяў параіць аўтару артыкулу, калі ён сам пісаў яго на такой беларускай мове, больш падвучыцца, а рэдакцыі часопісі больш уважліва адносіцца да сваіх абавязкаў. Артыкул тав. Хатаевіча ў тым-жа нумары (ст. 15), ма‘

быць перакладзены,—перакладзены з такімі-ж памылкамі. Напрыклад, хаця-бы ў першым абзацы, сустракаюцца такія славечкі як *вяртаючыхся*" (радок 4) „уцягваясь" (радок 7). Ня варта было перакладаць і плаціць грошы за такі пераклад.

Ня будзем ужо казаць аб тым, што Белдзяржкіно, перакладаючы на бел. мову надпісы фільм, трацячы на гэтую справу, ма' быць не маленькую капейку, дае глядачам лекцыі... беларускай няпісьменнасьці.

Усё гэта, вядома, дробязь. І чытач можа сказаць, што аб гэтым ня варта гаварыць, што аб гэтым можна пісаць (і пішуць сотні) фэльетоны, што тут „машыністкі вінаваты". Але, калі ўспомніць для чаго праводзіцца беларусізацыя апарату, калі ўспомніць, што гэтыя „шэдэўры" апаратнай творчасьці даходзяць да селяніна і галоўным чынам да яго, дык стане зразумелым, чаму селянін лае „беларусізацыю", што тут закладзена вялікая небясьпека,—замест набліжэньня, адрыў нашага апарату, што нарэшце нам гэта палітычна не карысна, дык стане зразумелым, што туг варта гаварыць і гаварыць шмат.

Нашы ўстановы шмат пераплацілі і пераплачваюць грошай на гэтую самую „беларусізацыю". Мы ў праве патрабаваць ня толькі формальнага пераходу справаводзтва на бел. мову, але й на такую мову, якая-б была бел. мовай, а не сурагатам, не зразумелым нават „творцам" гэтых шэдэўраў.

Мы павінны рашуча змагацца супроць утварэньня сухой, бяздушнай, няжыцьцёвай, суконнай канцэлярскай беларускай мовы. Мы ведаем, што старое чыноўніцтва зрабіла „агульнадаступную" расійскую мову, даступнай толькі гэтаму чыноўніцтву. Такія тэндэнцыі ёсьць, бязумоўна, і ў нашых канцэлярыях пры пераводзе на бел. мову іх працы.

Гэтай справай, справай палепшаньня якасьці беларусізацыі, павінна зацікавіцца ўся партыйная арганізацыя. Вядома, што гэта можа быць выпаўнена пры поўным, больш скорым ажыцьцяўленьні лёзунгу „*Уся КПБ павінна ўмець гаварыць пабеларуску*". І пісаць,—дабавім мы.

---

**А. С.**

# Аб працы інстытуту цэхоргаў

*(Менская акруга)*

Пытаньні паляпшэньня масавай працы ячэек КП(б)Б на прадпрыемствах, узьняцьце актыўнасьці шэраговых партыйцаў і беспартыйных рабочых у агульнай сыстэме нашага будаўніцтва, паляпшэньне сувязі партыйных ячэек і паасобных партыйцаў з беспартыйнай рабочай масай зьяўляецца ў даны пэрыод найбольш злобаднеўнымі і важнымі ў практыцы партыйнай працы.

Дзеля гэтае мэты праведзенае АК КП(б)Б абсьледваньне работы інстытуту цэхоргаў і скліканая па гэтай прычыне шырокая нарада сакратароў ячэек і цэхоргаў прышла к таму вываду, што практыка вылучэньня інстытуту цэхоргаў ва ўмовах нават адносна буйных прадпрыемстваў пачынае сябе апраўдваць. Правядзеньне сярод рабочых у цэху палітычных гутарак і чыткі газэт пад час перарываў для абеду, правільнае рэагаваньне праз парт‘ячэйку і на неправільна вырашаныя пытаньні аб расцэнцы аплаты рабочых, правядзеньне цэхоргамі вучоту настрояў рабочых, што садзейнічае больш правільнаму падбору вылучаемых ячэйкай кандыдатур у выбарныя органы; рэагаваньне на настроі рабочых і, урэшце, падрыхтоўка праз інстытут цэхоргаў ячэйковага актыву і яго вылучэньне на болей шырокую партыйную, профэсыянальную і гаспадарчую працу—усе гэтыя моманты, якія носяць, праўда, пакуль характар асобных выпадкаў, сьцьвярджаюць неабходнасьць захаваньня інстытуту цэхоргаў.

Аднак, абсьледваньне ўстанавіла, што работа інстытуту цэхоргаў застаўляе жадаць шмат лепшага. Абсьледваньне ўстанавіла шэраг адмоўных момантаў організацыйнага пабудаваньня інстытуту цэхоргаў, якія заключаюцца ў недастатковым вучоце конкрэтных асаблівасьцяй у вылучэньні цэхоргаў (вылучэньне цэхоргаў для абслугоўваньня 4—10 рабочых), у перагрузцы цэхоргаў іншай партыйнай і грамадзкай працай, што прыносіць шкоду працы ў цэху, сумяшчэньне абавязкаў цэхоргаў з абавязкамі профдэлегата, неразуменьне ў большасьці выпадкаў цэхоргамі сваёй ролі, выконваючы функцыі індывідуалаў і т. п.

Улічыўшы ўсё гэта пры тым становішчы, што ў шэрагу прадпрыемстваў інстытут цэхоргаў існуе ад 1—6 месяцаў, а таксама і ў асаблівасьці тыя абставіны, што кіраўніцтва працай інстытуту цэхоргаў з боку ячэек і РК было далёка недастатковым—улічваючы ўсё гэта будзе зусім зразумела чаму праца цэхоргаў не магла быць разгорнута ў дастатковай ступені.

Адсюль, натуральна, шэраг недахопаў, маючых непасрэднае дачыненьне да работы цэхоргаў, у асноўным зыходзячыхся да наступнага: а) слабая работа сярод комуністых цэху, а разам з тым накіраваньне цэхоргам работы па паляпшэньню сувязі комуністых у цэху з

беспартыйнымі рабочымі, у прыватнасьці з беспартыйным актывам; б) невыстарчальна праводзіцца вучот беспартыйнага актыву і яго выкарыстаньне на практычнай працы ў цэху, падрыхтоўка і намячэньне да вылучэньня лепшых беспартыйных рабочых і работніц на профэс. і грамадзкую працу; в) адсутнасьць, за некаторым рэдкім выключэньнем, масавай работы ў цэху і недастатковае выкарыстаньне для разгортваньня гэтай работы партыйцаў і комсамольцаў; г) слаба арганізуючая роля цэхоргаў у справе ўзьняцьця вытворчасьці працы і больш шырокага ўцягненьня рабочых у працу вытворчых нарад.

Улічваючы маючыяся недахопы ў рабоце інстытуту цэхоргаў АК прызнаў работу цэхоргаў слабай, даручыўшы РК і ячэйкам зьвярнуць больш увагі на ўзмацненьне кіраўніцтва іх работай (скліканьне нарад, інструктаваньне, заслухоўваньне дакладаў і г. д.).

Улічваючы тыя абставіны, што ў ячэйках няма дастатковага разуменьня ў пытаньні організацыйнае пабудовы інстытуту цэхоргаў і іх ролі ў агульнай сыстэме партыйнай працы на прадпрыемствах, АК зацьвердзіў распрацованае палажэньне аб працы цэхоргаў.

Задача парт'ячэек на прадпрыемствах зрабіць пералом у гэтай працы і там, дзе гэты інстытут ня ўведзен, ня гледзячы на налічча ўмоў для гэтай работы, неабходна прыступіць да яго організацыі. Тым больш гэта неабходна зараз, калі цэнтрам масавай работы, найбольш набліжаючай беспартыйных рабочых да яе, пачынае станавіцца цэх, аддзяленьне і г. д. Гэта аднак, ня трэба разумець так, што спэцыфічная работа ў цэху павінна параджаць абасобленыя погляды ў організатара гэтай работы і беспартыйных рабочых і ў скутку гэтых поглядаў так наз. „цэхавую замкнутасьць“. Наадварот, неабходна разглядваць і будаваць гэтую работу, увязваючы з агульнымі прынцыпамі і сыстэмай парт., проф., і гаспадарч. працы ўсяго прадпрыемства і ў цеснай сувязі з агульнай лініяй партыі.

---

Б. Васільлеў

# Практыка ўнутрыпартыйнага кіраўніцтва

*(Мазырская акруга)*

У практыцы ўнутры-партыйнага кіраўніцтва адзначаецца значнае зрушэньне ў бок падняцьця якасьці гэтай галіны працы, якая ідзе ў аснаўным на лініях: а) узмацненьня жывога кіраўніцтва за лік скарачэньня „папяровага“, б) наладжваньне плянавасьці і сыстэмы ў кіраўніцтве, в) праверкі выконваньня дырэктыў.

Галоўную ўвагу, натуральна, трэба ўдзяліць высьвятленьню мэтадаў і зьместу кіраўніцтва парт'ячэйкамі з боку Акругкому і Райкомаў. Вось шэраг вопытаў па гэтай лініі:

Значна ўзмацнілася жывое кіраўніцтва з боку Райкомаў ячэйкамі. За год у 5 (пяці) раёнах усе ячэйкі поўнасьцю абсьледваны па 2 разы, пры чым пасьля кожнага абсьледваньня даклады ячэек, з садакладамі абсьледвацеляў стаўляюцца на паседжаньнях Райкомаў. Акрамя гэтага паступова ўваходзяць у сыстэму—штомесячныя выезды сяброў РК у ячэйкі для інструктаваньня, пры чым гэтыя выезды, у адзнаку ад папярэдніх, ня маюць ужо „гастралёрскага характару“: прыехаў, пасядзеў максімум дзень і паехаў, а кожны выяжджаючы таварыш працуе у ячэйцы 5—6 дзён.

Гэта, як організацыйныя мерапрыемствы.

У частцы зьместу кіраўніцтва,—асяродак цяжкасьці пераносіцца не на колькасьць дырэктыў, якія даюцца ячэйкам, а на практычнае паказваньне, як правесьці ў умовах ячэйкі аснаўныя дырэктывы партыі.

Гэтак, Калінкавіцкі Райком па дакладу Доманавіцкай ячэйкі выносіць пастанову, апроч канстатаваньня дасягненьняў і недахопаў працы ячэйкі: 1) скласьці рэальны 3-х месячны плян працы, якім і кіравацца ў працы; 2) прапрацаваць пастанову апошняга пленуму Акругкому аб працы з беднатой і больш сыстэматычна зьбіраць групы беднаты пры сельсавеце, с.-г. таварыстве і камітэце ўзаемадапамогі; 3) асяродкам працы ячэйкі павінна быць гаспадарчая праца у ўмовах ячэйкі, асабліва павінна быць зьвернута ўвага на мэліорацыю, колектыўныя гаспадаркі, семянныя таварыствы, с.-г. крэдыт, агняўпорнае будаўніцтва; 4) пэрыодычна склікаць сялянскі актыў—сяброў с-с, КСУ, дэлегатак, настаўніцтва і г. д.; 5) правесьці вясеньнюю пасеўную кампанію—прапрацаваць гэта пытаньне на пленуме сельсавету, камітэце ўзаемадапамогі і сабраньні беднаты і шэраг іншых дырэктыў.

Па другой ячэйцы той-жа Райком дае такую дырэктыву: „Узмацніць барацьбу з протэкцыянізмам у жалезкоме, старацца ў першую чаргу скарыстаць па працы ў ім беднату“.

Відаць, што Райком умее згрупаваць увагу ячэек на аснаўных задачах працы з вучотам асаблівасьцяй працы кожнай ячэйкі.

Другі Райком—Каролінскі практыкуе гэтакі мэтад інструктаваньня: пасьля абсьледваньня працы ячэек—склікае пленум Райкому з удзелам усіх сакратароў ячэек і стаўляе даклады: 1) недахопы працы ячэек па лініі кіраўніцтва гаспадарчай працай і працай сярод беднаты і бліжэйшыя мерапрыемствы ў гэтай галіне; 2) недахопы і задачы працы сярод жанчын; 3) недахопы і задачы ў працы КСМ.

Гэты мэтад цалкам сябе апраўдвае ўжо тым, што на нарадзе выяўляецца ўвесь вопыт працы ўсіх ячэек. Трэба адзначыць, што гэтыя нарады выклікаюць вялікі інтарэс з боку ячэек.

Жыткавіцкі Райком—практыкаваў рассылку па ячэйках аглядаў (раз у 2-3 мес.) па пратаколах ячэек, паказваючы на лепшыя і горшыя прыклады як пастаноўкі на ячэйках паасобных пытаньняў, так і пастаноў на іх.

Гэта з аднаго боку значна спрыяе паляпшэньню разьбірацца ячэйкам у пастаноўцы найболей важных пытаньняў і большай прапрацоўцы пастаноў, а з другога—застаўляе Райкомы больш уважліва вывучаць усе пастановы ячэек.

У акрузе адначасова праводзіцца цяпер вопыт ліквідацыі агульных квартальных пісьмовых справаздач сельячэек перад Райкомамі.

Чым гэта выклікана? Тут ёсьць тры бакі:

Першы—у нашых сельскіх ячэйках большасьць партыйцаў тэхнічна малапісьменныя, перагружаныя штодзённай практычнай працай (аслабанёных сакратароў сельячэек нідзе няма) і пісьмовыя квартальныя справаздачы загружваюць ячэйку і ў той-жа час у вельмі малай ступені высьвятляюць ўсю працу ячэйкі;

Другі—пры больш частых выездах сяброў Райкому ў ячэйкі, пры ўважным вывучэньні пратаколаў Бюро і сходаў ячэек і ўрэшце, пры абавязковым прысутнічаньні сяброў РК пры справаздачах Бюро і сакратароў ячэек у час пераабраньня дае магчымасьць РК досыць поўна быць у курсе працы ячэек;

Трэці—з ліквідаваньнем агульных справаздач асяродак цяжару пераносіцца на сыстэматычнае падагульваньне вопыту працы ў паасобных галінах (праца з беднатой, праца з актывам, праца па ўкараненьню культурных форм сельскае гаспадаркі і г. д.) і скарыстаньне гэтага вопыту Райкомамі.

Гэтакім чынам ліквідаваньнем квартальных „агульных“ справаздач мы ўсталяем і скарачваем працу сельячэйкі, у той-жа час павышаючы якасьць працы.

Што зроблена ў галіне праверкі выконваньня пастаноў?

Апрача ўжо ўпамянутых мерапрыемстваў для праверкі, як ячэйкі выконваюць пастановы свае і Райкомаў, практыкуецца, праўда, яшчэ ня ўсюды і не дастаткова сыстэматычна штомесячныя справаздачы на агульных ячэйковых сходах аб выконваньні дырэктыў як самой ячэйкі, так і парторганаў. Мэтазгоднасьць гэтага мэтаду даказваць ня прыходзіцца.

Трэба адзначыць яшчэ некалькі вопытаў у галіне кіраўніцтва з боку Акругкому:

па першае,—гэта паступовая адмова ад агульных абсьледваньняў парторганізацый (раённых) і пераход на абсьледваньне паасобных галін працы. За апошні час праводзілася абсьледваньне і інструктаваньне па наступных пытаньнях: 1) праца з беднатой, 2) абхапленьне Райкомамі і ячэйкамі кіраўніцтва гаспадарчай працай, 3) становішча паргпрацы на чыгунцы, 4) праца савецкіх ячэек пад вуглом гле-

джаньня рацыяналізацыі апарату і барацьбы з бюрократызмам. Цяпер праводзіцца абсьледваньне па пытаньнях масавай працы і зьніжэньню цэн.

Згрупаваньне ўвагі на паасобных галінах працы, бязумоўна, дае больш поўнае вывучэньне гэтай працы, чым пры агульных абсьледваньнях.

Акружкомам выдзелена некалькі тыпічных ячэек (сельскіх, местачковых, савецкіх, фабрычна-завадзкіх і г. д.), ад якіх Акругком атрымоўвае ўсе матэрыялы непасрэдна. Гэта дае магчымасьць быць заўсёды ў курсе працы нашых ячэек.

Апошнія мерапрыемствы — гэта наладжваньне інструктарскай працы ў акрузе наогул.

З гэтай мэтай праводзяцца гэтакія мерапрыемствы:

1) пры Акругкоме склікаецца нарада інструктароў-партыйцаў для абмену вопытам працы;

2) намечана склікаць такія-ж нарады ўсіх інструктароў і партыйцаў і беспартыйных усіх акруговых організацый, (Выканкомаў, коопэрацыі і г. д.);

3) прыступлена да складаньня коордзініруючага пляну ўсёй інструктарскай працы на акрузе для таго, каб ня было паралелізма і каб інструктаваньне ніжэйшых організацый не зьмянілася ў перашкоду (з прычыны частага абсьледваньня) працы на мясцох.

Зразумела ёсьць яшчэ шэраг мэтадаў унутрыпартыйнага кіраўніцтва (нарады, выезды на месца сяброў АК і г. д.), але яны больш высьветляліся і дзеля гэтага мы на іх не затрымоўваемся. З другога боку аб недахопах працы мы наўмысьля ня пісалі, бо нашай задачай зьяўляецца высьветліць некалькі апраўдаўшых сябе мэтадаў.

---

# ГІСТПАРТ

**Агурскі**

## Роля дробна-буржуазных партый на Беларусі ў Кастрычнікавай рэволюцыі

### Беларускі рух *)

(*Працяг*)

Беларускі рух у самыя першыя дні Лютаўскай рэволюцыі прыняў востры нацыяналістычны характар.

У сакавіку 1917 г. у Менску адбыўся зьезд беларускіх нацыяналістычных організацый. Гэты зьезд абраў „Беларускі Нацыянальны Камітэт", у які ўвашлі вялікія памешчыкі, прадстаўнікі „Беларускай Соцыялістычнай Грамады", прадстаўнікі ад буйнай і дробнай буржуазіі і адзін рабочы.

Гэты Нацыянальны Камітэт адразу выставіў патрабаваньні Часоваму Ўраду аб аўтономіі Беларусі.

Беларускі Нацыянальны Камітэт зразу пачаў выдаваць свой орган „Вольная Беларусь", які групаваў вакол сябе ўсе клясы беларускага народу. Хаця рэдактарам „Вольнай Беларусі" быў член „Беларускай Соцыялістычнай Грамады", газэта мела востра шовіністычны характар. Вакол гэтай газэты гуртаваліся ўсе шовіністычныя элемэнты беларускай інтэлігенцыі.

Адначасна з „Беларускім Нацыянальным Камітэтам" зноў пачала існаваць „Беларуская Соцыялістычная Грамада". У сакавіку 1917 г. у Менску адбылася першая конфэрэнцыя часовага Камітэту беларусаў-соцыялістых.

Конфэрэнцыя ўхваліла рэзолюцыю аб дапамозе Часоваму Ураду і выказалася за працяг вайны супроць нямецкіх мілітарыстых.

Але Беларуская Грамада не рабіла ніякага ўплыву на Беларусі затым, што гэтая дробна-буржуазная і нацыяналістычная партыя, якая ў 1905-1906 г. г. гуртавала вакол сябе маленькія групы беларускай інтэлігенцыі, амаль зусім ня бывала сярод беларусаў. У 1905-1906 г. г. Беларуская Грамада рабіла адзіночныя спробы працаваць сярод беларускіх сялян, яна выпусьціла некалькі дзесяткаў проклямацый. Газэты і брошуры Грамада ня выпускала. Калі адбылася Лютаўская рэволюцыя, Беларуская Соцыялістычная Грамада ня мела нават ніводнага прадстаўніка ў Менскім Савеце.

---

*) Глядзі „Бальшавік Беларусі" № 5.

1-га мая Беларуская Социялістычная Грамада пачала выдаваць у Менску газэту „Грамада“. Гэта была маленечкая газэтка ў 4 старонкі. З першых-жа нумароў гэтай газэткі робіцца ясным, што Грамада лічыць самымі лепшымі прадстаўнікамі народу Керанскага, Цэрэтэлі і Чхэідзэ. Таксама робіцца ясным, што яна дробна-буржуазная нацыяналістычная партыя, якая ставіла нацыянальнае вызваленьне Беларусі вышэй за ўсё.

Не знайшоўшы спрыяючых умоў для працы ў самой Беларусі, адзіночныя прадстаўнікі Беларускай Социялістычнай Грамады пачынаюць весьці сваю працу ў Петраградзе сярод груповак беларускіх рабочых і сялян, якія былі сюды перакінуты ў часе вайны і працавалі ў Петраградзкіх фабрыках. Але і гэта праца сярод беларусаў ня мела посьпеху, бо гэтыя людзі былі ўцягнуты ў агульны рэволюцыйны рух, і больш цікавіліся агульна рабочымі інтарэсамі, чым нацыяналістычнымі пачуцьцямі беларускай інтэлігенцыі.

У корэспондэнцыі з Петраграду, якую правадыр Беларускай Социялістычнай Грамады надрукаваў у нумары 15 „Вольная Беларусь“ (1917), аўтар скардзіцца: „Беларусь стогне ад зьдзеку і зьнявагі, але на гэта не зьвяртаецца іх думка, сьвядома й наўмысьля прыдушана пачуцьцё да роднай старонкі. Ім убіта ў галаў сухая, аднабокая думка аб агульна-работніцкім інтарэсе і ўбіта тымі, каго не абходзіць справа ўціску нацый, каму незнаёма тая падвойная сіла прыгняценьня, якая цісьне беларуса, як работніка наогул і беларуса ў асобку“...

Усё-ж такі ў Петраградзе, Кранштаце, Фінляндыі і іншых мясцох стварыліся групы „Грамады“ і іншыя беларускія социялістычныя групоўкі. Улетку 1917 г. у Петраградзе адбылася другая конфэрэнцыя „Грамады“. Пасьля другой конфэрэнцыі стала ясным, што „Грамада“ злучае дзьве социялістычныя плыні: марксысцкую і народніцкую.

У кастрычніку 1917 г. адбылася трэцяя конфэрэнцыя „Грамады“. Гэтая конфэрэнцыя ўстанавіла, што ў організацыі адбываецца раскол паміж дзьвюма рознахарактарнымі плынямі: левая група, якая сконцэнтравала вакол сябе беларускіх рабочых з петраградзкіх фабрык, якая пазьней прыняла бальшавіцкую програму і ўлілася ў шэрагі комуністычнай партыі. Большасьць „Грамады“ зрабілася правай, шовіністычнай групай, якая потым праводзіла контр-рэволюцыйную дзейнасьць у Беларусі.

У ліпні 1917 г. Беларускі Нацыянальны Камітэт склікаў другі зьезд беларускіх організацый. На гэтым зьезьдзе, паводле патрабаваньняў Беларускай Социялістычнай Грамады, організавалася ў Менску „Цэнтральная Рада ўсіх беларускіх організацый і партый“. Рада паставіла сабе мэтай аб'яднаць усе беларускія організацыі, якія знаходзіліся ў розных мясцох Расіі. Пазьней у некаторых мясцох адбываліся зьезды салдат-беларусаў, каторыя зацьвярджалі рэзолюцыі, у якіх беларускі народ заклікаўся да організацыі вакол „Вялікай Беларускай Рады“ ў Менску, каб агульнымі сіламі дабіцца для беларускага народу аўтономіі, шырокага мясцовага самакіраўніцтва.

Зьезды патрабавалі таксама, каб беларускія салдаты організаваліся ў асобныя беларускія часьці, якія-б абаранялі інтарэсы беларускага народу. У такім выглядзе адбываўся ўвесь беларускі нацыянальны і социялістычны рух.

* * *

Бальшавікам, што кіравалі рэволюцыяй у Менску і на заходнім фронце, зразумела, прыходзілася змагацца супроць Часовага ўраду,

супроць контр-рэволюцыйных генэралаў і афіцэрства, а таксама супроць нацыяналізму беларускіх палітычных партый.

Розныя супраціўнікі бальшавікоў не маглі затрымаць росту бальшавіцкае плыні на фронце. У верасьні 1917 г. бальшавікі склікалі першую заходня-краёвую конфэрэнцыю і абралі „Заходні Краёвы Камітэт“, у які ўвайшлі прадстаўнікі Смаленскай, Віцебскай, Менскай, Магілеўскай і Віленскай губэрань. 5 кастрычніка адбылася другая конфэрэнцыя бальшавіцкіх організацый заходняга краю і заходняга фронту.

На конфэрэнцыю прыбылі прадстаўнікі організацый, якія налічвалі ў сябе 28 тыс. членаў і 27 тыс. спачуваючых, якія ў большасьці складаліся з салдат. Аграмадны рост бальшавізму яшчэ больш узмоцніў рэпрэсіі супроць бальшавікоў на Беларусі. Другую бальшавіцкую гаэту „Молат“ таксама зачынілі, і шмат бальшавікоў было заарыштована. Але рэпрэсіі толькі ўзмоцнілі бальшавіцкі ўплыў. У верасьні адбываліся перавыбары Менскага Савету, і на савеце бальшавікі атрымалі пераважную большасьць.

Кастрычнікавая рэволюцыя адбывалася ў самабытных умовах: зразу пасьля атрыманьня вестак аб пераваропе ў Петраградзе, Менскі Бальшавіцкі Савет на мірных умовах забраў уладу ў свае рукі. Ён адразу вызваліў усіх бальшавікоў і салдат, якія былі арыштаваны за палітычныя праступкі супроць Часовага ўраду. Лік гэтых „праступнікаў“ быў такі вялікі, што з іх сформавалі цэлы полк, які быў названы: „Першы рэволюцыйны полк імя Менскага Савету“. Контр-рэволюцыя фронту сконцэнтрывала свае сілы. 27 кастрычніка Менск быў абкружаны казакамі і артылерыяй, і Менскі Савет на кароткі час зноў страціў уладу. 2 лістападу Менскі Савет падрыхтаваўся да новага перавароту. 2-я армія Заходняга фронту прышла на дапамогу Менскаму Савету, і ў ноч на 2 лістападу паслала ў Менск самы лепшы броняпоезд з вялікай колькасьцю зброі. З дапамогай гэтых ўзброеных сіл Менскі Савет зноў захапіў уладу.

Для таго, каб стварыць саветы па ўсёй Беларусі і на Заходнім фронце, Менскі Савет організаваў Вайсковы Рэволюцыйны Камітэт Заходняга краю, у які ўвайшлі прадстаўнікі ад усіх саветаў Заходняга краю. Старшынёй Рэволюцыйнага Камітэту быў абраны тав. Мясьнікоў.

Вайсковы Рэволюцыйны Камітэт Заходняга фронту і Менскі Савет былі ў кастрычнікавыя дні самымі рэволюцыйнымі органамі ва ўсёй Расіі. Мільённыя арміі Заходняга фронту зьяўляліся такой магуткай сілай, што яны павінны былі вырашыць лёс Кастрычнікавай рэволюцыі. Трэба было перашкодзіць контр-рэволюцыі паслаць войска ў Петраград. Трэба было перацягнуць салдацкія масы на гэты бок Савецкай улады. Гэтыя задачы былі выкананы. Тав. Мясьнікоў, старшыня Вайсковага Рэволюцыйнага Камітэту Заходняга краю, зрабіўся галоўна-камандуючым заходняга фронту.

У гэтыя бурныя дні кастрычнікавай рэволюцыі ўсе дробна-буржуазныя і соцыялістычныя партыі былі супроць кастрычнікавага перавароту і супроць таго, каб Саветы ўзялі ўладу ў свае рукі. Менская організацыя „Бунду“ вынесла шэраг рэзолюцый, у якіх яна энэргічна протэставала супроць гае „здрады“, якую бальшавікі ўчынілі ў адносінах да рэволюцыі і рабочае клясы, захапіўшы ўладу і паставіўшы гэтым рэволюцыю ў вялікую „небясьпеку“. Менскі „Вэкер“ друкаваў загады камітэту аб выратаваньні рэволюцыі і заклікаў рабочых ня выконваць загадаў Савету Народных Камісараў. Потым „Вэкер“ адкрыта агітаваў саботажы супроць Савецкай улады.

Беларускія нацыяналістыя таксама сталі супроць Кастрычнікавай рэволюцыі. 27 кастрычніка 1917 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада і ўсе іншыя беларускія нацыяналістычныя групы выдалі маніфэст пад назваю „Грамата да беларускага народу“, у якім яны гаварылі: „У гэтыя дні нам належыць паказаць запраўды, што змучаная пакутай беларуская рэволюцыйная дэмократыя не дапусьціць, каб віхор бязладу (Кастрычнікавая рэволюція С. А.) загубіў нашую сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяй і правоў Беларускага Народу“.

Апрача гэтага, становішча бальшавіцкай партыі і Савецкай улады ў Менску і на Заходнім фронце пагоршылася і з прычыны шовіністычнай працы контр-рэволюцыянэраў.

На Заходнім фронце стварылася Украінская Вайсковая Рада, якая пачала організоўваць асобныя украінскія вайсковыя часьці. Апошнія пачалі выконваць толькі загады Украінскай Цэнтральнай Рады. Гэтыя украінскія часьці зрабілі спробы пакінуць Заходні фронт. Каб спыніць гэтыя захады, Савет Народных Камісараў Заходняга краю, які быў організаваны ў канцы лістападу 1917 г., арыштаваў увесь склад Украінскай Рады Заходняга фронту. Гэтым быў зьнішчаны рух украінскіх вайсковых часьцей.

Другая сутычка на Заходнім фронце адбылася паміж Савецкай уладай і сформаванымі польскімі вайсковымі часьцямі, якімі кіраваў генэрал Доўбар-Мусьніцкі. Польскія вайсковыя часьці з самага пачатку сталі на службу буржуазіі; беларускія сяляне пачалі выступаць супроць польскіх паноў і забіраць панскую зямлю і маемасьць, а Доўбар-Мусьніцкі бараніў паноў і помсьціўся над сялянамі.

Доўбар-Мусьніцкі сконцэнтраваў вакол сябе войска і 23 студзеня 1918 г. ён формальна абвясьціў Савецкай уладзе вайну. Польскія легіёны захапілі Бабруйск і забралі там вялікую суму грошай з дзяржаўнай скарбніцы.

Трэцяя сутычка адбылася паміж Савецкай уладай і беларускімі нацыяналістымі. У канцы сьнежня ў Менску адчыніўся Беларускі зьезд розных беларускіх колаў, якія не прадстаўлялі сабою беларускіх сялянскіх мас.

Вакол зьезду згрупаваліся таксама такія організацыі, якія вялі анты-савецкую пропаганду і прынялі рэзолюцыю супроць Савецкай улады, якую і хацелі замяніць нацыянал-дэмократычнай. Дзякуючы гэтаму, Саўнарком Заходняга краю гэты зьезд распусьціў. Пры такіх умовах Савецкая ўлада працавала на Беларусі 100 дзён, пакуль мірныя перагаворы ў Бярэсьці ня былі спынены, і немцы окупавалі амаль усю Беларусь.

* * *

З прыходам немцаў у Менск зноў абудзіліся розныя дробна-буржуазныя партыі. Ізноў ажыла Менская гарадзкая дума. На першым пасяджэньні Гарадзкой думы пад нямецкім панаваньнем старшыня Менскай думы, які быў таксама правадыром „Бунду“, абвясьціў, што ўрэшце мы зноў маем магчымасьць вольна зьбірацца на пасяджэньні гарадзкой думы [1]).

У окупаваных мясцовасьцях Беларусі з прыходам немцаў яшчэ больш выясьніўся сапраўдны характар беларускага нацыянальнага руху. Як толькі немцы прышлі і Савет Народных Камісараў 21 лютага пакінуў Менск, Выканаўчы камітэт 1 беларускага зьезду, які быў рас-

[1]). Гэты факт занатаваны ў 1-ым нумары „Подпольная Правда“ — орган Комуністычнай організацыі Літвы-Беларусі, за 18 кастрычніка.

пушчаны ў лістападзе, разам з прадстаўнікамі ўсіх дробна-буржуазных партый Беларусі, абвясьціў сябе „вышэйшай уладай краіны“ пакуль на Беларусі на дэмократычных асновах будзе скліканы Беларускі Ўстаноўчы Сойм.

21 лютага стварыўся народны сакратарыят Беларусі, у які ўвайшлі прадстаўнікі партый—Беларускай Соцыялістычнай Грамады“, эсэраў, „Бунду“, „Поалей-Ціон“ і С. С.

25 лютага (1918 г.) у Менск прышлі немцы, якія не хацелі прызнаваць Беларусі, як самастойнае дзяржавы і не хацелі прызнаваць створанага Беларускага ўраду, але правадыры беларускага ўраду 9 сакавіка абвясьцілі Беларусь народнай рэспублікай. Тэрыторыя „Беларускай Народнай Рэспублікі“, паводле дэкларацыі 24 сакавіка, складалася з наступных губэрняў: Менскай, Горадзенскай, Віленскай, Чарнігаўскай, часткі Магілеўскай і частак іншых суседніх губэрняў, якія населены беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка абвясьціла Беларусь незалежнай рэспублікай, і пачала шукаць дзяржавы, якія прызналі-б самастойнасьць Беларусі.

Каб дасягнуць гэтай мэты, рада „Беларускай Народнай Рэспублікі“ паслала прывітальную тэлеграму Вільгэльму, у якой дзякавала яму за вызваленьне Беларусі, ад бальшавікоў і прасіла яго, каб ён узяў Беларусь пад абаронаў і апеку нямецкай імпэрыі.

Пад гэтай тэлеграмай падпісаліся прадстаўнікі Беларускай Соцыялістычнай Грамады.

Гэты гандаль прывёў да расколу ў шэрагах Беларускай Рады. З яе вышлі часткі яўрэйскіх соцыялістычных організацый, як „Бунд“, „Цыяністыя-Соцыялістыя і яўрэўскія соцыялістыя“ і таксама адбыўся раскол у шэрагах Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Левая частка Грамады адазвала сваіх прадстаўнікоў ад ураду. Урад развальўся і стварылася Часовая Рада пяці. Потым Рада ўпаўнаважыла вялікага абшарніка Р. Скірмунта, каб ён склаў габінэт Ураду. Скірмунт склаў гэты ўрад і зрабіўся яго старшынёю.

Сярод яўрэйскіх колаў у часе нямецкай окупацыі досыць інтэнсыўна працавалі ўсе нацыяналістычныя партыі, і асабліва „Бунд“, які меў штодзённую газэту—„Дэр Вэкер“ і таксама стаяў на чале менскай гарадзкой думы. Як усе газэты, якія выходзілі ў часе нямецкага панаваньня бундаўскі „Вэкер“ вёў агітацыю супроць бальшавікоў і распаўсюджваў фальшывыя весткі супроць Савецкай Расіі.

У гэты самы час, калі дробна-буржуазныя партыі на поўнай свабодзе праводзілі сваю працу, бальшавікі працавалі падпольна і змагаліся супроць нямецкіх окупантаў і супроць здрадніцкіх дробна-буржуазных партый, якія прыкрываліся соцыялістычным вэлюмам. Як у старыя царскія часы, бальшавікі зьбіраліся ў маленькіх хатках або ў падвалах і друкавалі там проклямацыі, у якіх яны заклікалі рабочых і сялян Беларусі да змаганьня супроць нямецкіх окупантаў. У верасьні 1918 г. розныя комуністычныя групы Беларусі і Літвы склікалі ў Смаленску конфэрэнцыю, на якой быў выпрацаваны агульны плян працы ў окупаваных краінах. Бальшавіцкія організацыі рознымі спосабамі распаўсюджвалі шмат літаратуры сярод рабочых, сялян, а таксама і сярод нямецкіх салдатаў. За гэтую агітацыю шмат бальшавікоў было заарыштавана.

Такое становішча было на Беларусі пакуль не пачалася рэволюцыя ў Нямеччыне.

(Канец)

---

# У ЦК КП(б)Б

## Адносна рабвяскораўскага руху ў Беларусі

*(Пастанова сакрат. ЦК КП(б)Б ад 16 мая 1927 г.)*

Побач з агульным ростам Савецкай грамадзкасьці і актыўнасьці рабоча-сялянскіх мас, ідзе рост рабвяскораўскага руху ў Беларусі. Гэтаму росту спрыяе рот пэрыодычнага друку і асабліва насьценных газэт, а таксама ўзросшая ўвага партыі да пытаньняў кіраўніцтва рабселькораўскім рухам.

ЦК КПБ адзначае наступныя дасягненьні ў рабселькораўскім руху:

1. Узрост колькаснага складу рабселькораў, які ў сярэднім адпавядае лічбам, якія маюцца ў іншых частках СССР (на вучоце газэт 4500 селькораў, з іх рабкораў 35%, селькораў 55%, іншых 10%, жанчын 5—7%, партыйцаў і комсамольцаў 30%. Акрамя таго маецца да 200 насьценгазэт, вакол якіх групіруюцца па 10—15 рабселькораў).

2. Узмацненьне кіраўніцтва партыі рабселькораўскім рухам, увага нізавых парторганізацый да гэтай працы, аб чым сьведчаць праведзеныя за апошнія месяцы ў большасьці акруг раённыя і акруговыя нарады рабселькораў, якія па праходзілі пад кіраўніцтвам мясцовых парторганізацый і рэдакцыі газэт.

3. Паляпшэньне кіраўніцтва з боку рэдакцый цэнтральных і акруговых газэт, рабселькораўскай працай (нарады рабкораў, мэтадычныя ўказаньні гурткам, індывідуальныя лісты, куткі рабселькораў, выдзяленьне спэцыяльных працаўнікоў для кіраваньня рабселькорамі ў некаторых газэтах.

4. Значны ўзрост ролі рабселькораў у політычным жыцьці ўва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Удзел у кампаніях рэжыму эканоміі, барацьбы з бюрократызмам, зьніжэньню цэн, перавыбараў у саветы і інш., садзейнічала ўцяганьню мас у гэтыя кампаніі і ўносіла конкрэтны практычны зьмест пры іх правядзеньні. Шмат дзельных прапаноў пры ажыцьцяўленьні давалі значныя вынікі.

5. Маецца дасягненьне ў адносінах удзелу рабселькораў у грамадзкім жыцьці. Значная частка зьяўляецца сябрамі гарадзкіх і сельскіх саветаў, працуючы ў камісіях, сэкцыях. Шмат селькораў зьяўляюцца прыкладнымі гаспадарамі (па Бабруйскай акрузе 66 селькораў уцяпляюць хлявы, 64 сеюць караньплоды, 72 сеюць травы).

Побач з дасягненьнямі ЦК КП(б)Б адзначае наступныя недахопы.

1. Выпадкі неправільнага парткіраўніцтва контраліраваньня, альбо адсутнічаньня кіраўніцтва ў вёсцы. Яшчэ ня ўсе ячэйкі ведаюць дырэктывы партыі па рабселькораўскім руху.

2. Ня ўсе організацыі (асабліва адміністратары і хозяйственьнікі) адносяцца з належнай увагай да адказу на допісы рабселькораў, часта аддзелываючыся формальнай адпіскай, але яшчэ ёсьць паасобныя выпадкі, калі прасьледваньне ўсё-ж такі мае месца (увальненьне рабко-

раў пры першай мажлівасьці, пагрозы і г. д.).

4. Яшчэ няма чоткіх форм арганізацыі рабселькораў. Нязначная частка селькораў аб'яднана ў гурткі, паралельна існуюць гурткі прыхільнікаў газэты, пры чым часта яны ня зьвязаны з насьценгазэтай.

5. Слаба вядзецца выхаваўчая праца, узровень палітычнай і агульнай падрыхтоўкі вельмі нізкі. Якасьць рабселькораўскага матэрыялу хаця і палепшылася, усё-ж яшчэ ў рэдакцыю прыбываюць тысячы допісаў, ня маючых ніякай вартасьці.

6. Адмоўныя зьявішчы ў рабселькораўскім руху, якія адбіваюць настроі новых пластоў рабочых у горадзе і дробна-буржуазную ідэолёгію ў вёсцы вызначаюцца ў наступным:

а) Прызнаньне партыйнага кіраўніцтва, але недавер'е да мясцовых партячэек і паасобных партыйцаў. Гэтае зьявішча адзінае і наглядаецца галоўным чынам у вёсцы.

б) Настроі падпольшчыны сярод селькораў, жаданьне схавацца ад акаляючых, схаваць сваё прозьвішча і г. д. ёсьць імкненьне стварыць нелегальныя селькораўскія гурткі.

в) Разуменьне сваёй працы толькі, як разаблачыцельнай, жаданьне пісаць толькі аб недахопах, нездавальняючая праверка фактаў.

г) Пісаньне толькі для ганарару. Імкненьне пісаць як мага больш, больш ва многіх газэтах. На гэтай глебе маюцца выпадкі конкурэнцыі, асабліва ў вёсцы.

д) Выпадкі злоўжываньня селькораўскім званьнем, правышэньне сваіх абавязкаў і правоў, злоўжываньне аружжам.

Усе паказаныя зьявішчы не зьяўляюцца масавамі і асаблівай пагрозы ў рабселькораўскім руху не ўяўляюць.

ЦК КП(б)Б лічыць, што асноўнымі задачамі парторганізацыі і рэдакцый газэт у галіне рабселькораўскага руху павінны быць:

1. Далейшае замацаваньне партыйнага кіраўніцтва па лініі нізавых парторганізацый і рэдакцый газэт. АК і АКК павінны выяўляць выпадкі неправільнага кіраўніцтва, альбо адсутнічаньне кіраўніцтва на мясцох для прыняцьця належных мер.

2. Рэдакцыі газэт павінны ўзмацніць сваю працу сярод рабселькораў, праводзячы яе больш плянамерна. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на пастаноўку вучоту, індывідуальнай сувязі, дапамогі гурткамі і насьценгазэтам. Неабходна далейшае ўцягваньне рабселькораў да актыўнага ўдзелу ў правадзімых кампаніях.

3. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ўцягваньне дарослых рабочых і сялян і асабліва жанчын у рабселькораўскі рух. Для гэтага рэдакцыям неабходна больш уважліва рэгуляваць скарыстаньне паступаючых допісаў. Адначасова неабходна разаблачаць імкненьне варожых элемэнтаў, якія прымазаліся ў рабселькораўскі рух.

4. У рабселькораўскі рух трэба больш рашуча ўцягнуць работніц і сялянак, асабліва ў працу насьценгазэт, у склад рэдколегіі і гурткі пры газэтах. Праз Жанаддзел трэба правесьці шэраг мерапрыемстваў для ўцягваньня актыўных дэлегатак, жанкораў, якія пішуць у часопісь „Работніца і Сялянка" да ўдзелу ўва ўсіх цэнтральных, і акруговых газэтах, у склад гурткоў пры друкаваных газэтах, трэба пашырыць колькасьць жанчын рабселькорак.

5. Узяць курс на ўстанаўленьне адзінай формы рабселькораўскіх організацый; насьценгазэтамі рэдколегія—гурток рабселькораў пры насьценнай і друкаванай газэце куды ўваходзяць тыя, хто пішуць у насьценныя і друкаваныя газэты і ўсе, якія цікавяцца гэтай працай.

6. Палепшыць пастаноўку выхаваўчай працы па лініі організацыі гурткоў пры насьценгазэтах, дапамагаючы ім шляхам выдзяленьня адпаведных партыйцаў. Пры камплектаваньні партшкол зьвярнуць

увагу на ўцягненьне рабселькораў. Уцягваць селькораў у агульную сыстэму палітасьветнай працы праз хаты-чытальні, клюбы і г. д. Прыняць меры да прасоўваньня рабселькораўскай літаратуры ў масы.

7. ЦК КПБ зьварочвае ўвагу ўсіх парторганізацый і рэдакцый газэт на неабходнасьць правядзеньня ў жыцьцё дырэктыў ЦК УКП(б), ЦК КП(б)Б сакавіковага Пленуму. ЦК, асабліва ў адносінах паляпшэньня зьместу насьценгазэт, выбарнасьці рэдколегії і ўрэгуляваньня ўзаемаадносін рабкораў з хазяйственьнікамі.

8. Зьвярнуць увагу ЦК ЛКСМБ і рэдакцый камсамольскіх газэт на неабходнасьць узмацненьня арганізацый і выхаваўчай працы сярод юнкораў.

## О регулировании состава КП(б)Б

*(постановление бюро ЦК КП(б)Б от 20 мая 1927 г.)*

Учитывая рост и регулирование социального состава КПБ за период с 1 января 1926 года по 1 января 1927 г., ЦК КП(б)Б констатирует, что в основном парторганизации КПБ усвоили и выполняли директивы партс'ездов и пленумов ЦК КП(б)Б о регулировании социального состава, в результате чего имеется:

а) увеличение общего состава КПБ за 1926 г. на 4374 человека или на 26,1% (на 1 января 26 года 16764 ком., на 1 января 27 года—21138);

б) рост удельного веса в составе КПБ действительных членов партии с 56,5% до 60,3% (что составляет на 1 января 27 г. 12764 чел.), при чем в составе действительных членов партии выросла абсолютно и относительно пролетарская часть: рабочих по социальному положению с 56,4 до 58,4% и от станка с 25,6 до 28,6%;

в) увеличение в КПБ количества и процента женщин-коммунисток с 1785 или 10,4% на 2334 или 11,1%, а также и роста действительных членов КПБ среди женщин—с 46,8 до 50,2%;

г) увеличение в абсолютных числах пролетарской части КПБ (рабочих по социальному положению) с 9056 на 10518 или на 16,1%, в составе которой абсолютно возросло и количество рабочих от станка с 4929 на 1 января 1926 г. до 5700 на 1 января 1927 г. или же на 15,6%;

д) абсолютный и относительный рост крестьян по социальному положению—с 27,2% до 31,3% и по занятиям—с 11,4% до 13,3%;

е) значительный прием в КПБ за 1926 г., выражающийся в 4740 чел., распределяющихся за счет рабочих (38,6%), крестьян (45%) и служащих и прочих (16,4%) по соц. положению, причем 48,2% всего приема шло за счет ЛКСМБ;

ж) вместе с тем ЦК констатирует непрерывное возрастание в составе КП(б)Б основной национальности (белорусской), составляющей на 1/1-27 г. 52,4% (на 1/1-25 г. 43%, на 1/1-26 г.—50,5%), увеличиваясь также и в составе принятых в партию (за 1926 г. 62%, за 25 г. 57,8%), при стабилизации процента великоруссов (на 1/1-26 г. 15,9%, на 1/1-27 г. 15,9%) и незначительном снижении в КПБ процента остальных национальностей: евреев с 23% до 21,8%, поляков с 3,9% до 3,3% и латышей с 2,8% до 2,3%.

Однако, наряду с абсолютным увеличением состава КПБ и пролетарской части ее, ЦК отмечает:

а) Снижение процента рабочих, как по соц. положению, так и от станка:

1. По соц. положению с 54,2 на 1/1-26 г. до 49,7 на 1/1-27 г.

2. От станка с 29,4 на 1/1-26 г. до 26,9 на 1/1-27 г., что является результатом снижения в 26 году процента приема рабочих с 50,1% за 25 год до 38,6% за 26 год при повышении приема служащих с 14%

за 25 год до 16,4% за 26 г. и при абсолютном и относительном увеличении в составе КПБ за 26 год крестьян.

б) Незначительный рост в КПБ процента служащих и прочих: по социальному положению с 18,6% на 1/1-26 г. до 19,0% на 1/1-27 г.; по занятиям с 43,4% на 1/1-26 г. до 44,8% на 1/1-27 г.

ЦК считает необходимым отметить, что некоторое ухудшение социального состава КПБ за 26 год, по сравнению с 25 годом, выразившееся в снижении процента рабочих, при одновременном возрастании в КПБ процента служащих и прочих, особенно по занятиям, является следствием допущения некоторыми организациями недочетов в деле регулирования своего роста (см. приложение).

Помимо этого, ЦК отмечает еще следующие недостатки в работе по приему в партию на местах:

а) хотя основную массу коммунистов у станка составляют рабочие на наиболее крупных предприятиях БССР (81,4% фабзав. и транспортных) к общему составу коммунистов рабочих от станка, однако, в ряде крупных предприятий работа по вовлечению в партию протекает недостаточно и идет слабее, нежели на мелких и средних предприятиях, что видно из выборочных данных по 27 наиболее крупным предприятиям БССР, в которых процент коммунистов к общему количеству рабочих в среднем составляет 15,5% на 1/1-27 г. против 16,4% на 1/1-26 г. (при чем процент коммунистов на отдельных крупных предприятиях значительно ниже этого среднего процента). (См. приложение). Недостаточно вовлекаются в партию квалифицированные рабочие.

ЦК особенно обращает внимание парторганизации на следующие ненормальности в отсеве за 1926 г.:

а) на значительный отсев при приеме в КПБ рабочих всех групп, выражающийся в 33,6%, среди которых наибольший процент отсева падает на фабзав. и транспортных рабочих—46,5%;

б) на высокий процент отсева батраков и сельхозрабочих—62,1%.

ЦК считает, что такой значительный отсев рабочих и батраков при приеме в партию является особенно ненормальным при сравнении его с процентом отсева за тот же период крестьян, составляющий 58,3% и служащих 48,9%;

в) недостаточная решительность со стороны низовых парторганизаций (ячеек, райкомов) в отказе служащим в приеме в партию, а иногда и упорное наистаивание перед ОК в приме последних (данные Бобруйского ОК);

г) недостаточная работа по вовлечению женщин в партию, особенно фабзав. работниц, при одновременном увеличении процента служащих и прочих по социальному положению в составе принятых женщин (за 25 г. 12,4%, за 26 г.—25,5%);

д) высокий процент приема через ЛКСМБ отдельными организациями комсомольцев служащих (данные из Бобруйска—38% служащих из общего количества принятых в партию комсомольцев).

Отмечая ненормальным положение, когда при росте рабочего класса БССР и устойчивой в общем тяге рабочих в партию, удельный вес рабочих от станка в течение года понизился с 29,4% до 26,9%, ЦК считает необходимым указать ОК на необходимость более энергичного проведения решений XIII и XIV с'ездов партии о регулировании роста, более энергичного вовлечения в партию рабочих, занятых на производстве, в частности из рабочего беспартийного актива.

В дальнейшем ЦК предлагает:

а) обратить особенное внимание на усиление работы ячеек по во-

влечению в партию рабочих, непосредственно занятых на производстве, особенно на крупных предприятиях, развертывая и углубляя на них массовую работу на основе решения мартовского Пленума ЦК КП(б)Б: особенно усилить работу по вовлечению в партию квалифицированных рабочих. С этой целью широко поставить среди рабочих раз‘яснение программы и устава партии, используя для этого индивидуальную работу, беседы во время обеденных перерывов и т. п., а также более широко привлекать беспартийных рабочих к обсуждению принимаемых в КПБ мероприятий (путем привлечения на собрания ячейки, через стенгазету и т.д.).

Особенно ЦК обращает внимание парторганизации на необходимость усиления работы по вовлечению в партию работниц на крупных фабзав. предприятиях.

б) Отмечая слабый рост КПБ за счет батраков и сельхозрабочих, недостаточное выполнение парторганизациями партдиректив по этому вопросу, в частности высокий процент отсева батраков и сельхозрабочих при приеме в партию, ЦК считает необходимым заострить внимание всей КПБ на необходимость более решительного проведения в жизнь ранее данных директив и предлагает ОК и РК усилить работу по вовлечению в партию батраков, батрачек, сельхоз. рабочих и работниц.

в) Продолжать работу по вовлечению в партию крестьян, обратить особенное внимание на вовлечение, в первую очередь, наиболее близкого к партии крестьянского актива из бедняков (работающих в советах, кооперации, групп и собраний бедноты) и лучшей части середняков, проявивших себя на общественной работе и проводящих политику партии и Советской власти, а также на вовлечение в партию крестьянок —активисток и общественниц.

г) При приеме служащих не допускать обхода ограничений, установленных уставом партии для этой категории, строго соблюдая постановление XIII с‘езда в части приема служащих.

Установить при приеме последних (служащих) тщательную проверку рекомендаций путем вызова в РК и по необходимости в ОК, рекомендующих, а также считать обязательным личное присутствие принимаемых в ОК при обсуждении приема их, а также при приеме членов ЛКСМБ и женщин--служащих тщательно обсуждать в каждом отдельном случае их пригодность для партии, при чем прием в ЛКСМБ и женщин должен в основном итти за счет рабочих на производстве и крестьян от сохи.

д) Наладить систематическую проверку парткомами работы по приему в партию, в первую очередь, в сельских и советских ячейках, а также регулярную проверку роста организации в целом.

е) Орготделу ЦК ввести в систему проверку роста КПБ в целом не реже раза в 3 месяца, а также установить наблюдение за ростом отдельных ячеек на наиболее крупных предприятиях с целью изучения процесса роста на них.

ж) Предложить, ОК, как правило, выделять в качестве председателей комиссий по предварительному просмотру принимаемых в партию членов Бюро ОК, а также считать необходимым ввести в состав комиссии представителя ОКК.

з) Отметить невыполнение постановления Бюро ЦК от 15 марта 1926 г. об урегулировании социального состава КПБ в части изучения подлинного состава крестьян, принятых в партию, а также характерных моментов, удерживающих часть квалифицированных рабочих от вступления в партию.

Предложить Орготделу указанное постановление ЦК провести в жизнь.

